Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4808) 27 лютага 2015 г.

## Пункціpам

✔ У Белдзяржуніверсітэце выдадзены настольны перакідны каляндар на 2015 год «Дванаццаць Герояў Савецкага Саюза». Яго выпуск прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Каляндар — своеасаблівая партрэтная галерэя герояў Вялікай Айчыннай вайны, былых супрацоўнікаў і студэнтаў БДУ, уганараваных найвышэйшым званнем СССР — Героя Савецкага Саюза.

✔ Дэлегацыя Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» наведала Францыю з мэтай усталявання сувязей з нашчадкамі роду Радзівілаў і развіцця супрацоўніцтва з французскімі замкавымі музейнымі комплексамі. Праведзены перамовы з кіраўніцтвам і дасягнуты дамоўленасці пра абмен экспазіцыямі і дэлегацыямі экспертаў. Прайшлі сустрэчы з Ізабэль д'Арнано і Мары Рэ — праўнучкамі Марыі Дароты дэ Касцялян Радзівіл.

✔ Беларускія мультфільмы ўпершыню сталі ўдзельнікамі міжнароднага егіпецкага фестывалю. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Егіпце Сяргей Рачкоў спрычыніўся да паказу беларускіх анімацыйных фільмаў «Піліпка», «Аповесць мінулых гадоў» і «Рыбка па імені Нельга», якія адбыўся ў культурным цэнтры егіпецкага фонду культурнага развіцця «Талаат Харб». Дэманстрацыя работ Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» прайшла ў межах Міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў у Каіры.

✔ Канцэрт класічнай музыкі ў выкананні айчыннай скрыпачкі Юліі Лебядзенка, якая жыве ў Вене, з поспехам прайшоў у аўстрыйскім горадзе Шрунс федэральнай зямлі Форарльберг. Выступленне адбылося ў межах мерапрыемстваў, арганізаваных пры актыўным удзеле беларускай дыпламатычнай місіі ў Вене, рускамоўнага таварыства культуры «МОСТ», якім кіруе грамадзянка Беларусі Вольга Качан.

✔ Беларускі дуэт Uzari & Maimuna, які прадставіць краіну на міжнародным конкурсе песні «Еўрабачанне-2015», выступіць на «Канцэрце «Еўрабачанне»», што пройдзе 18 кастрычніка ў Амстэрдаме і прэзентуе сваю песню «Time» ў абноўленай аранжыроўцы.

## Спяшайцеся!

Па 10 сакавіка «Белпошта» і Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» праводзяць сумесную акцыю па прыёме падпіскі па льготных коштах.

- **«Літаратура і мастацтва»** *(падпісны індэкс — 638564) — 28 600 руб.*
- **«Звязда»** *(падпісны індэкс — 638504) — 56 150 руб.*
- **«Нёман»** *(падпісны індэкс — 749684) — 29 350 руб.*
- **«Полымя»** *(падпісны індэкс — 749854) — 29 000 руб.*
- **«Маладосць»** *(падпісны індэкс — 749574) — 26 150 руб.*
- **«Вожык»** *(падпісны індэкс — 748444) — 26 300 руб.*
- **«Родная прырода»** *(падпісны індэкс — 749264) — 44 850 руб.*
- **«Алеся»** *(падпісны індэкс — 749954) — 23 350 руб.*
- **«Бярозка»** *(падпісны індэкс — 748224) — 19 250 руб.*


Прыгоды сямейкі з Шэрбура 6


Лялькі і людзі 14


Дзеці не чытаюць? 15


Ну і ню! 16

# Вяртанне песні



*Фота Яўгена Матука*

*Сцэна са спектакля «Адвечная песня». Мужык — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Ігар Сігаў, Зіма — народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.*

**Кожны тэатр мае спектакль-візітоўку. Для Купалаўскага — гэта «Паўлінка», для Вялікага — балет «Лебядзінае возера», а для Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі сапраўдным хітом стала рок-фольк-опера «Адвечная песня».**

Прэм'ера спектакля, прымеркаваная да 120-годдзя Янкі Купалы, адбылася 6 ліпеня 2002 года. Але больш як 10 гадоў безупыннага пракату ўзялі сваё: фізічны знос фанаграм, дэкарацый, касцюмаў.

— Рэстаўрацыя была неабходна, — адзначыў рэжысёр-пастаноўшчык «Адвечнай песні» Сяргей Кавальчык. — Абнавілі сцэнаграфію, пашылі новыя касцюмы, падкарэкціравалі танцавальныя нумары. Дадалі ў музычную аранжыроўку Цімура Калiноўскага гучанне жывых інструментаў гурта «Палац». Але для мяне гэта ўсё тэхнічныя паняцці. Рэканструкцыя спектакля — у першую чаргу аднаўленне сувязі з сучасным светам. Усё ж такі 10 гадоў прайшло, многае змянілася. Што здавалася раней істотным — сталася другасным, а штосьці, наадварот, загучала вастрэй.

Новая версія фольк-оперы прагучала ў РТБД 19 лютага 2015 года. Сцэнічнае ўвасабленне паэмы, створанай у 1908 годзе Янкам Купалам, — унікальны сінтэз народных матываў і рок-музыкі. Пастаноўка распавядае пра лёс Мужыка ад нараджэння і да смерці.

У спектаклі шлях Беларусі пад сонцам, шлях Чалавека на гэтай зямлі ўвасобіў бліскучы акцёрскі склад на чале з зоркамі беларускай сцэны — заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Ігарам Сігавым і народнай артысткай Беларусі Таццянай Мархель. Нельга не адзначыць непаўторны вакал Бэлы Шпінер (Восень, Сялянка). Цікавымі акцёрскімі вобразамі вылучаюцца Алёна Баярава (Жонка), Віктар Багушэвіч (Бацька), Наталля Халадовіч (Бяда), Галіна Чарнабаева (Доля), Дзмітрый Давідовіч (Голад, Холад), Андрэй Дабравольскі (Святар), Ілья Ясінскі (Бязногі салдат) ды іншыя. Касцюмы, адноўленыя Марыяй Герасімовіч, падкрэсліваюць рэалістычнасць і адначасова сімвалічнасць спектакля.

«Адвечная песня» — адзіная пастаноўка, у якой бяруць удзел усе акцёры РТБД. Трупа вельмі пластычная ў гарэзных танцах, натуральная ў спевах. Сучасная беларуская фольк-опера заварожвае магутнай энергетыкай: разам з героямі перажываеш радасць, трывогу, гора.

— Для мяне «Адвечная песня» — больш за 10 гадоў жыцця ў РТБД. На гэтым спектаклі я вырас як акцёр, — прызнаўся выканаўца галоўнай ролі Мужыка Ігар Сігаў. — Пастаноўка пра тое, што адбываецца вакол нас. Дзе б мы ні выступалі, яна усюды ўспрымаецца на «ўра», таму што тэма чалавека блізкая кожнаму!

**Чытайце на стар. 16 ▶**

# Рэха, якое баліць

Сустрэча старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, генерал-лейтэнанта міліцыі ў адстаўцы, аўтара мноства легендарных кніг Мікалая Чаргінца са слухачамі і студэнтамі адбылася 23 лютага ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Мерапрыемства, прымеркаванае да Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл нашай краіны, стала яшчэ адной нагодай успомніць пра гераізм беларускага народа ў год 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Гэтая важная дата з'яўляецца сімвалам беларускай нацыі, яе стойкасці і незалежнасці. Вялікая Айчынная вайна да гэтага часу «жыве» ў нас — генетычна, падсвядома, перадаўшыся ад бацькоў. Боль, які яны перажылі, нават праз шмат гадоў пасля тых страшных падзей, рэхам адгукаецца ў свядомасці кожнага», — мяркуе рэктар Акадэміі кіравання Марат Жылінскі.


Фота Ганны Грынкевіч

Прадстаўляючы галоўнага героя творчай сустрэчы, якая стала сапраўдным майстар-класам, кранальнай і шчырай дыскусіяй, рэктар адзначыў, што Мікалай Чаргінец — легендарны чалавек, чый вопыт, жыццёвы і творчы, сапраўды ўнікальны.

«Звычайна 23 лютага віншуюць мужчын, але ж гэта ўсенароднае свята, аднолькава важнае і для жанчын, і для падрастаючага пакалення, і, вядома ж, усіх ветэранаў, якія памятаюць, праз што ім давялося прайсці на фронце», — сказаў Мікалай Чаргінец.

Пісьменнік і сам перажыў многае, бачыў вайну на ўласныя вочы, калі быў яшчэ хлапчуком: «Падчас працы над кнігамі я выкарыстоўваю не толькі дакументы, але і асабістыя ўражанні. Вострыя і балючыя ўспаміны пра тое, як вешалі маладую жанчыну і яе двухгадовае дзіця на вачах натоўпу, як расстрэльвалі маіх таварышаў, засталіся ў памяці назаўсёды. Любы пісьменнік, які піша годныя творы, укладае ў іх душу, сваё разуменне падзей гісторыі».

Па словах Мікалая Чаргінца, «памяць пра вайну будзе жыць вечна: да гэтага часу Беларусь не перастае адкрываць новыя імёны герояў, якія абаранялі родную зямлю і аддалі за яе мірнае неба сваё жыццё».

Пісьменнік звярнуў увагу на тое, што «за 70 гадоў з дня Вялікай Перамогі многае ў краіне змянілася: Мінск паўстаў з руінаў і выглядае як сучасны еўрапейскі горад. Мадэрнізавалася беларуская эканоміка. Але ў той жа час людзі пастаянна павінны думаць пра сваю бяспеку».

«Збожжа», пакінутае фашызмам, нечакана вырастае, ператвараючыся ў жахлівыя разбурэнні. У такой сітуацыі беларускаму народу трэба не толькі памятаць пра тое, якой цаной дасталася Вялікая Перамога, але і дзейнічаць — умацоўваць стабільнасць эканомікі, арміі, палітычнай сітуацыі ў краіне, падтрымліваючы атмасферу даверу і зычлівасці. Добры прыклад канкрэтных вынікаў у гэтай галіне — міратворчая ініцыятыва Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі па ўрэгуляванні ўкраінскага пытання», — упэўнены Мікалай Чаргінец.

Асаблівую ўвагу Мікалай Чаргінец надаў сваёй кнізе «Аперацыя «Кроў», дзе ён распавёў пра хлопчыкаў і дзяўчынак, якія так і не даведаліся, што такое дзяцінства, апынуўшыся ў фашысцкім пекле.

«Дзіцячых донарскіх цэнтраў, як іх умоўна называлі фашысты, а менавіта пунктаў збору крыві для параненых нямецкіх салдат, у Беларусі было чатырнаццаць. Я ўзяў за аснову кнігі адзін з іх, які дзейнічаў у маленькім пасёлку Сёмкаве, недалёка ад Мінска», — канстатаваў Мікалай Чаргінец.

Пісьменнік узгадаў вехі свайго кар'ернага шляху, у тым ліку працу ў міліцыі і службу ў Афганістане. Заўважна, што ні на хвіліну Мікалай Чаргінец не здраджваў сваёй дзіўнай працаздольнасці, кіпучай энергіі і пачуццю неабыякавасці да людзей.

«Ні адзін чалавек не павінен адмаўляцца ад справы, якая яму даручана, старанна выконваць яе, а не скардзіцца на тое, як яму цяжка. Толькі прыкладаючы намаганні, можна чагосьці дамагчыся. А калі не атрымліваецца — цябе зразумеюць, бо ўбачаць, што ты стараўся», — падзяліўся галоўным жыццёвым прынцыпам пісьменнік.

Падчас творчай сустрэчы можна было пазнаёміцца з кнігамі госця, а таксама ўбачыць невялікі фільм «Выпрабаванне», зняты тэлекампаніяй «ВаенТБ» па матывах рамана «Аперацыя «Кроў» да 70-годдзя Вялікай Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Беларускі Парыж

Тыдзень таму ў Парыжы ўрачыста адкрыўся Культурны цэнтр Беларусі ў Францыі. Падтрымку ў яго стварэнні аказала Пасольства Беларусі ў гэтай краіне.

20 лютага адбылося першае мерапрыемства Культурнага цэнтра — вечар, прысвечаны Прападобнай Еўфрасінні Полацкай, які праходзіў у праваслаўным Кафедральным храме Трох Свяціцеляў па блаславўленні епіскапа Корсунскага Нестара і пры падтрымцы пасольства.

Падчас адкрыцця мерапрыемства Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка пажадаў цэнтру плённай дзейнасці па прадстаўленні беларускай культуры, традыцый, духоўнай і культурнай спадчыны нашай краіны на тэрыторыі Францыі, развіцці беларуска-французскіх культурных і гуманітарных сувязей.

Быў паказаны дакументальны фільм, прысвечаны Еўфрасінні Полацкай, адкрыта выстаўка, прысвечаная помнікам старажытнага Полацка. Наведвальнікам прадэманстраваны беларускія выданні, у якіх прадстаўлена гісторыя жыцця беларускай святой і гісторыя развіцця яе роднага горада.

На вечарыне выступіў намеснік старшыні Беларускага фонду культуры, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, які распавёў пра адраджэнне праваслаўя ў Беларусі, унёсак Еўфрасінні Полацкай у духоўнае і культурнае развіццё нашага народа.

Ад імя Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла прыходу храма Трох Свяціцеляў была перададзена вялікая ікона Еўфрасінні Полацкай і праваслаўная мастацкая літаратура з Беларусі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Паэтычная дыпламатыя

Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася імпрэза ў межах праекта «У дыялогу культур», у якой традыцыйна бярэ ўдзел дыпламатычны корпус, акрэдытаваны ў Рэспубліцы Беларусь. Гэтым разам удзел узялі прадстаўнікі 22 пасольстваў, а таксама міністр замежных спраў Латвійскай Рэспублікі Эдгарс Рынкевічс і міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей.

Ад Францыі да Кітая, ад Фінляндыі да Індыі. У гэты вечар гучалі дзясяткі вершаў: Шымборская і Райніс, Пастарнак і Эмінеску, Шаўчэнка і Бадлер і многія іншыя — і ўсе на мовах арыгіналаў. Дзень роднай мовы ператварыўся ў свята паэзіі, дзе можна было пачуць нават урывак з «Калевалы».

Саветнік па культуры Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь спадар Сэйед Абдолмаджыд Шафаі падрыхтаваў музею падарунак — верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», перакладзены на персідскую мову і па-мастацку аформлены. Дырэктар музея Алена Ляшковіч распавяла, што рыхтуецца кніга, дзе славуты верш Купалы будзе прадстаўлены на 100 мовах свету.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей падкрэсліў значэнне праекта «У дыялогу культур»:

— Канечне, мы розныя, у кожнага народа адметны менталітэт, погляд на рэчы і падзеі, але разам з тым мы і аднолькавыя: усім хочацца жыць і плённа працаваць, і ўсіх нас аб'ядноўвае любоў да Радзімы. На мой погляд, Янка Купала — яскравы прыклад, як трэба любіць сваю Бацькаўшчыну. Для яго Радзіма — гэта Я, Я — гэта Радзіма. Як і мова. Нам трэба браць прыклад з паэта, які марыў пра шчасце для сваёй зямлі, пра свабоду. Сёння яго мара пачынае здзяйсняцца: у нас самастойная дзяржава, якая мае нацыянальныя інтарэсы і абараняе іх, і ад кожнага беларуса, ад усіх нас разам залежыць, якой будзе наша дзяржава ў будучыні. Мы павінны зрабіць усё, каб мара Янкі Купалы здзейснілася.

Паэтычны выбар міністра замежных спраў спыніўся на санеце Янкі Купалы «Бацькаўшчына», напісаным у 1915 годзе:

*«…І калі здзекваецца*
*нада мною хтосьці —*
*Над Бацькаўшчынай*
*здзекваецца ён маей,*
*Калі ж над ёй — мяне тым*
*крыўдзіць найцяжэй».*

Міністр замежных спраў Латвійскай Рэспублікі Эдгарс Рынкевічс адзначыў, што гэты год — асаблівы ў стасунках Беларусі і Латвіі:

— Мы святкуем 150-годдзе з дня нараджэння нашага вядомага паэта Яна Райніса, які меў цесныя стасункі з беларускімі творцамі. Ён шчыра верыў, што мова — стрыжань, сэрца кожнай нацыі. Падтрымліваючы добрасуседскія адносіны, мы шмат чаго зможам дасягнуць. І я вельмі рады, што пачатак майго візіту супаў з такім мерапрыемствам.

Паводле Уладзіміра Макея, у наступным годзе мерапрыемства праводзіць сумесна Міністэрства замежных спраў РБ і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. «Я лічу, яно павінна мець большы маштаб», — зазначыў міністр.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Сцежкі да святла


Фота Кастуся Дробава

*Прамаўляе Аляксей Дудараў.*

Вечар памяці пісьменніцы Таісы Бондар, прымеркаваны да 70-годдзя з дня яе нараджэння, адбыўся ў культурна-дзелавым цэнтры «Дом Масквы ў Мінску».

Усё жыццё Таіса Мікалаеўна нястомна аддавала свой талент, памкненні, любоў — Радзіме, чалавецтву, Сусвету. Творчы шлях пачала ў 1970 г. нізкай вершаў, апублікаваных у «ЛіМе». У 1974 г. убачыў свет першы зборнік паэзіі Т. Бондар «Захапленне», а пасля — зборнікі «Акно ў восень» (1977), «...І голас набыла душа» (1980), «Святочны снег» (1981), «Час душы, мой час вячэрні...» (1995) ды іншыя. У 1999-м ветэранская арганізацыя Саюза пісьменнікаў Расіі ўзнагародзіла яе медалём Жукава. У 2004 г. пісьменніца стала лаўрэатам прэміі «За духоўнае адраджэнне».

Падчас вечара памяці публіка пачула аўдыязапіс успамінаў пра калегу па пяры пісьменніцы Раісы Баравіковай. «Заўсёды здзіўляла апантанасць і неймаверная працавітасць Таісы… Па жыцці яна была даволі моцным, а час ад часу і рэзкім чалавекам, ніколі не мяняла свайго меркавання, калі прыходзіла да пэўнай высновы», — прыгадвала Раіса Андрэеўна.

У гэты вечар са сцэны гучалі — вершы Таісы Бондар у выкананні вядучай імпрэзы Наталлі Бараноўскай і акрысы Алы Доўгай, а на экране дэманстраваліся фотаздымкі і відэазапісы з жыцця пісьменніцы: вось яна ідзе на працу — у рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва», дырэктарам якой была з 2002 па 2005 г., чытае ўрывак са сваёй паэмы, гутарыць з мастаком Віталем Цвіркам... Здаецца, зараз сыдзе з партрэта, звернецца да гледача. Але…

Творчая дзейнасць — гэта перааасэнсаванне ўласных уражанняў. Таіса Мікалаеўна ўражвалася пастаянна: роднай зямлёй, краявідамі, кнігамі… А галоўнае — людзьмі. На радзіме і ў шматлікіх падарожжах яна захаплялася прыродай, культурай кожнай з краін, асобамі. І гэтае захапленне знаходзіла адбітак у праніклівай і празаічнай творчасці пісьменніцы.

Сябар і калега Т. Бондар, драматург і празаік Аляксей Дудараў прыгадаў, што ў айчыннай паэзіі 1970 — 1980-х былі тры па-сапраўднаму знакавыя творцы: Таіса Бондар, Раіса Баравікова і Яўгенія Янішчыц. Пісьменнік распавёў гледачам пра сваё сяброўства з Т. Бондар, «паэтэсай са шчымлівай жаночай душою і цвёрдым мужчынскім характарам», у стасунках з якой часам здараліся і кур'ёзныя выпадкі.

Каля 10 год таму Народны літаратурны тэатр «Жывое слова» БДПУ імя Максіма Танка паставіў літаратурны спектакль паводле вершаў Таісы Бондар. На вечары памяці кіраўнік тэатра Алеся Сівохіна і яго актрыса Карына Пацко выканалі песню з гэтай пастаноўкі.

Паводле загадчыка культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіі Шагойка, паэзія Таісы Бондар шматколерная, гэта люстэрка зменлівасці настрояў і зрухаў душы.

Дырэктар Пухавіцкага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч распавёў: з Таісай Мікалаеўнай, ураджэнкай Пухавіччыны, пазнаёміўся ў Мар'інай Горцы ў 1989-м, калі творцы групамі ездзілі па ўсёй краіне, сустракаючыся з людзьмі. Шмат разоў пісьменніца выступала і на малой радзіме — у гарадскім пасёлку Рудзенск.

Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алена Стэльмах прадставіла публіцы паэтычны зборнік Т. Бондар «Спрадвечныя сцежкі» («Выдавецкі дом «Звязда», 2015; укладальнік Алена Толкач), які, паводле яе меркавання, з'яўляецца найлепшым спосабам ушанавання памяці творцы. Кнігу склалі творы розных гадоў: вершы, кароткія паэмы-песні ды паэма «Мы родам з вайны».

Некалькі песень выканала спявачка Іна Перасецкая-Малаковіч. Сваімі думкамі пра творчасць Таісы Бондар з гледачамі падзяліліся доктар філалагічных навук, прафесар Іван Саверчанка і літаратуразнаўца Міхась Кенька. Прысутнічалі на імпрэзе таксама паэт Георгій Кісялёў і кандыдат філалагічных навук, дацэнт Уладзімір Навумовіч.

**Яна ЯВІЧ**

# Даследчык, творца, патрыёт

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч» прадставіў у малой зале Белдзяржфілармоніі паэтычна-музычную імпрэзу Валерыя Максімовіча «Пакуль я тут».

Галоўнага героя публіцы прадставілі дырэктар — мастацкі кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева і вядучы імпрэзы, рэжысёр, артыст Алег Вінярскі. У гэты вечар вершы паэта і навукоўца Валерыя Максімовіча гучалі не толькі ў аўтарскім выкананні — іх дэкламавалі Г. Дзягілева, Алег Вінярскі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, акцёр Уладзімір Мішчанчук, студэнт БДУІР Аляксандр Скам'янаў. Шчырае слова пра Валерыя Аляксандравіча прамовілі яго калега па пяры, паэт Мікола Шабовіч і мастацкі кіраўнік народнага ансамбля народнай песні і музыкі «Шчодрыца» Ірына Вакульчык.

На лёсах родзічаў В. Максімовіча адбіліся і сталінскія рэпрэсіі, і Вялікая Айчынная вайна. Яго верш «Матчына малітва», прысвечаны бабулі і загінуламу на фронце дзядзьку, настолькі кранальна і пранікнёна выканала трэцякласніца сталічнай СШ № 132, вучаніца Спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву Аліна Русак, што дзяўчынку выклікалі на біс!

Музычны настрой вечарыны стварылі барды Андрэй Зыгмантовіч і Аляксей Нежавец, студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Таццяна Кім (фартэпіяна) і Анастасія Храпіцкая, якія выканалі песню на верш В. Максімовіча «Рэха», створаную маладым кампазітарам Аляксандрам Клімчанкам. Яркім фінальным акордам сталася выступленне народнага ансамбля народнай песні і музыкі «Шчодрыца».

**Яна ЯВІЧ**

# Віншуем!

Народнае літаратурна-паэтычнае аб'яднанне «Рунь» адсвяткавала 20-годдзе. Да юбілею калектыву была прымеркавана канцэртная праграма ў валожынскім Доме культуры, якую правялі кіраўнік аб'яднання, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціна Гіруць-Русакевіч і ўдзельніца «Руні» Таццяна Косік. У фае размясцілася выстаўка калектыўных і аўтарскіх зборнікаў рунеўцаў.

Канцэрт пачаўся прысвячэннем 70-годдзю Вялікай Перамогі. Гучалі тут і словы любові да Валожыншчыны і Валожына, лірыка і гумар. Завяршылася імпрэза «Гімнам Валожынскай зямлі», напісаным кампазітарам Эдуардам Зарыцкім на словы Сяргея Маляўскага і выкананым народным ансамблем народнай песні «Сваякі» разам з усімі ўдзельнікамі «Руні».

**Ірына КАРНАУХАВА,**
**намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ, кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці**

# Увайсці ў вобраз

Конкурсны адбор маленькіх талентаў у творчую студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся ў сталічнай сярэдняй школе № 23.

Вучні 8-х, 9-х і 10-х класаў чыталі вершы, паказвалі тэатралізаваныя літаратурна-музычныя пастаноўкі. Касцюмы былі прыдуманы і пашыты самімі ўдзельнікамі. У склад журы ўвайшлі пісьменнікі Наталія Касцючэнка, Наталля Казапалянская, Аліна Легастаева і Лізавета Палеес.

Конкурсны паказ падрыхтавала выкладчыца рускай мовы і літаратуры Людміла Кваша. Да арганізацыі мерапрыемства спрычыніліся таксама загадчыца школьнай бібліятэкі Ларыса Пішчальнікава і педагог Наталля Валькоўская.

Вынікам сустрэчы стаў удзел студыйцаў у прэзентацыі ў сталічным Доме дружбы выдадзенай у Санкт-Пецярбургу кнігі «Непадзельнае рэчышча», якую склалі вершы сучасных беларускіх і рускіх паэтаў.

**Вольга ГЛУШЧАНОК**

# Падарунак сябру

Даўняе сяброўства ў Анатоля Зэкава з дзіцячай бібліятэкай № 6 г. Мінска, якая носіць імя Васіля Віткі. Менавіта тут у апошнія гады ладзяцца прэзентацыі яго дзіцячых кніг, якія заўсёды праходзяць арыгінальна.

Безумоўна ж, не застаўся без увагі і 60-гадовы юбілей пісьменніка, лаўрэата літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі. На сустрэчу з А. Зэкавым завіталі вучні сталічных школ № 80 і 105, якія падчас імпрэзы дэкламавалі вершы творцы. Акцёры лялечнага тэатра, што працуе пры кніжніцы ўжо не першы год, прадставілі герояў казак Анатоля Зэкава, якія павіншавалі свайго стваральніка. А пісьменнік чытаў вершы, прамаўляў са школьнікамі скорагаворкі, прапаноўваў загадкі і вершаваныя матэматычныя задачы.

Намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталія Касцючэнка ўручыла юбіляру ганаровыя граматы СПБ і сталічнай пісьменніцкай арганізацыі.

**Вольга ГЛУШЧАНОК**

# Пра мову

Міжнародны дзень роднай мовы адсвяткавалі на філалагічным факультэце БДУ. У літаратурна-музычнай імпрэзе "Ад Бога мова ў кожнага народа" ўзялі ўдзел студэнты і выкладчыкі ўстановы. Перад прысутнымі выступілі дэкан факультэта Іван Роўда, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Лукашанец. Вызначылі: шанаваць родную мову патрэбна не раз у год, а штодня.

Вершы, прысвечаныя роднай мове, прачытаў доктар філалагічных навук, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ Вячаслаў Рагойша, а таксама паэтэса, дацэнт Ірына Багдановіч. Ганаровай госцяй імпрэзы стала Сіёры Кіёсава, аспірантка Цукубскага ўніверсітэта Японіі, якая выдатна размаўляе па-беларуску. Дзяўчына напісала дысертацыю на адпаведную тэму. А таксама арганізавала курсы беларускай мовы ў Токіа, стварае падручнік для японскіх студэнтаў.

Да свята студэнты падрыхтавалі паэтычныя і музычныя нумары. Адметна, што студэнты філфака — прадстаўнікі розных краін свету, якія вывучаюць каля 16 моў, але часцей за ўсё ў сценах універсітэта гучыць беларуская.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Слова — усюды

Нядаўна ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася сумесная імпрэза кніжніцы і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры «У аснове ўсюды — слова», прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы. Установу наведалі вучні малодшых класаў сталічных школ.

На свята завітаў паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Зэкаў, які прачытаў маленькім гасцям уласныя вершы. Цэлае прадстаўленне прапанаваў прысутным артыст Аляксандр Ждановіч, вядомы ўсім як Маляваныч з «Калыханкі».

Да імпрэзы супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі выстаўку «Чытанка для дзяцей і не толькі». У экспазіцыі былі прадстаўлены казкі, вершы, аповесці беларускіх класікаў, а таксама замежныя творы. Маленькія чытачы з цікавасцю гарталі шэдэўры дзіцячай літаратуры.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Зорная Кася і іншыя

Прэзентацыя зборніка «Зорная Кася», які выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларуская аўтарская казка», адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі.

Перад чытачамі, увасабляючы герояў сваіх твораў, выступілі аўтары кнігі Пятро Васючэнка, Павел Ляхновіч, Алесь Гібок-Гібкоўскі, Серж Мінскевіч, Мікола Кандратаў, Зміцер Дзядзенка, Анатоль Зэкаў. Апошні прадстаўляў яшчэ і сваю будакашалёўскую зямлячку Таццяну Прышчэпаву, якая не змагла прыехаць на імпрэзу ў сталіцу.

Пісьменнікаў суладна дапаўнялі музычныя кампазіцыі, выкананыя на самых незвычайных старадаўніх інструментах Яраша Малішэўскага і песні юнай Альжбэты Спрынчан-Малішэўскай, якая, апроч усяго, увасабляла на прэзентацыі заглаўную гераіню кнігі Зорную Касю.

**Наталля САКАЛЯНСКАЯ**

# ЛіМ-каляндар

**5 сакавіка** — 85 гадоў Міхаілу Карпуку, мастаку кіно і тэлебачання, графіку, жывапісцу.

**7 сакавіка** — 65 гадоў кампазітару Васілю Раінчыку, заснавальніку і кіраўніку ансамбля «Верасы», народнаму артысту Беларусі, заслужанаму артысту БССР.

**8 сакавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння опернага спевака Пётры Конюха (1910 — 1994).

**8 сакавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Яраслава Пархуты (1930 — 1996), пісьменніка, краязнаўца, журналіста, падарожніка.

**9 сакавіка** — 55 гадоў рэжысёру і акцёру Уладзіміру Савіцкаму.

**10 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Аркадзя Марціновіча (1920 — 2009).

**10 сакавіка** — 85 гадоў мастаку Мікалаю Кірылаву.

**16 сакавіка** — 125 гадоў з дня нараджэння Саламона Міхоэлса (1890 — 1948), яўрэйскага акцёра, рэжысёра, педагога, народнага артыста СССР (1939).

**19 сакавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Івана Кірэйчыка (1935 — 1996).

**20 сакавіка** — 60 гадоў паэту Андрэю Мазько.

**21 сакавіка** — 175 гадоў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча (1840 — 1900), пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

**21 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння Зінаіды Курдзянок (1915 — 1985), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі.

**22 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння паэта Аляксея Пысіна (1920 — 1981).

**23 сакавіка** — 25 гадоў з часу стварэння ўстановы «Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь» (Мінск).

**25 сакавіка** — 80 гадоў Уладзіміру Папковічу, паэту, празаіку, перакладчыку, педагогу, аўтару вучэбных дапаможнікаў для вышэйшай школы.

**26 сакавіка** — 55 гадоў паэту Віктару Шніпу.

**28 сакавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мархеля (1940 — 2013), літаратуразнаўца, перакладчыка, даследчыка беларускай літаратуры XIX ст. і беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей.

**29 сакавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння кінарэжысёра Уладзіміра Корш-Сабліна (1900 — 1974), народнага артыста Беларусі і СССР, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**29 сакавіка** — 65 гадоў Зінаідзе Дудзюк, паэтэсе, перакладчыцы, драматургу.

**31 сакавіка** — 215 гадоў з дня нараджэння Восіпа Сянкоўскага (1800 — 1858), вучонага-ўсходазнаўца, дыпламата, пісьменніка, мовазнаўца, журналіста, члена-карэспандэнта Пецярбургскай АН.

# Вершаў акорды

Лірычна-музычная імпрэза «Аб мове роднай замоўлю слова я…» адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Падзяліць любасць да матчынай мовы сюды завіталі Віктар Шніп, Мікола Шабовіч і Дзмітрый Дземідовіч, творы якіх прачытаў заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Салаўёў. Заключным акордам вечара стала выступленне паэта і барда Дзмітрыя Пятровіча, у выкананні якога прагучалі песні на словы беларускіх творцаў.

Госці вечарыны атрымалі магчымасць пазнаёміцца з выстаўкай, якую падрыхтавалі супрацоўнікі ўстановы да Дня роднай мовы. У экспазіцыі былі прадстаўлены рукапісы і асабістыя рэчы пісьменнікаў-сучаснікаў Якуба Коласа — Петруся Броўкі, Міхася Лынькова, Максіма Танка. Дэманстраваліся таксама рукапісы вершаў і навуковых прац Коласа, дакументы яго дзейнасці ў галіне айчыннага мовазнаўства.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**2 сакавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Ірынай Тулупавай. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**2 сакавіка** — *на прэзентацыю новай кнігі пісьменніцы Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць». Мерапрыемства пройдзе ў СШ № 10 (зав. Браняўы, 15). Пачатак у 12.30.*

**2 сакавіка** — *на канцэрт — конкурс мастацкага чытання і песні сярод студэнтаў ВНУ і маладых акцёраў драматычных і музычных тэатраў, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў актавай зале БДУІР (вул. П. Броўкі, д. 4, к. 2). Пачатак — а 15-й гадзіне.*

**3 сакавіка** — *на паэтычнае свята «Адзінай ёй, і толькі ёй адной…», прымеркаванае да ўрачыстага адкрыцця Клуба творчых жанчын «Спадарыня» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**4 сакавіка** — *на прэзентацыю кніжнай серыі для дзяцей «Свет вакол нас», якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 1 (вул. Гарадскі вал, 3). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**5 сакавіка** — *на паэтычна-музычнае свята «Пад небам адзіным», што адбудзецца ў Цэнтры нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**6 сакавіка** — *на паэтычна-музычнае свята «Свяча. Музыка. Паэзія», прысвечанае Міжнароднаму жаночаму дню 8 Сакавіка. Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

Іван ЖДАНОВІЧ



## На старых не павышайце голас

*На старых не павышайце голас…*
*Злітуйцеся: дайце дацярпець,*
*Покуль, зерне выселіўшы, колас*
*Будзе аціхаць і сірацець.*

*Пераход — усім наканаваны,*
*Як душы даспельваецца плод.*
*Памаліцеся, каб восені туманы*
*Атулілі ў Вечнасць адыход…*

*На старых не павышайце голас…*
*Не павышайце голас…*
*…голас…*

## Пра насы

Наследаванне Францішку Багушэвічу

*О, Бог таму няроўна дзеле,*
*Што ў нас няроўныя… насы:*
*Таму й адзін у гожым целе,*
*Другі ж — кульгавы ці касы.*

*Таму адным — усюды рады,*
*Другіх — адсунуць і затруць,*
*Адным шанцуе хіба ў градах,*
*А іншым — ордэны даюць.*

*Адны — у ракурсе, на сцэне,*
*А ёсць і ў зале гледачы...*
*Вось па насах нас Бог і цэніць:*
*Ну хоць ты плач, хоць рагачы…*

*Ну а насоў была раздача,*
*Напэўна, там, дзе ўсе — раўня,*
*Дзе аніхто ўжо больш не плача,*
*Дзе рай: вялікая радня.*

*Вось хто пра Роднасць памятае,*
*Не пнецца быць святой святых —*
*Той гожы носік атрымае,*
*А гад — насішча на траіх.*

*…Калі ж цябе недалюбілі,*
*Недакахалі, не знайшлі —*
*Дай лепей волю мудрай сіле,*
*Не сей раздраю на зямлі.*

*Лепш — адступіцца, калі іншы*
*Умела патрапляе ў масць,*
*Бо нехта ж Мудры ўсё запіша*
*Ды ў Канцылярыю падасць.*

*О, там прыпомняць аб галоўным,*
*І калі дзёр ты надта нос —*
*Яго падправяць, безумоўна,*
*Падкарэктуюць фарт і лёс.*

*…Тым, хто мудруе над «вопросом»,*
*Чаму няроўна дзеле Бог,*
*Ой, не застацца б толькі з носам*
*На заканчэнні ўсіх дарог.*

## Беларуская застольна-вітальная песня

*Сабрацца разам нам даўно, даўно пара —*
*Каб стала болей і цяпла, і прыгажосці.*
*Наперакор усім вятрам*
*Збяромся разам — для дабра,*
*Бо й самі госці — гэта шчасце для*
*кагосьці!*

*Падымем тосты — за гасцей,*
*Каб сустракацца нам часцей,*
*І каб вітацца ўсё часцей — у весялосці!*
*Дабром вітаем мы гасцей,*
*І рады мы, калі — э-гэ-эй! —*
*З гаспадарамі весяляцца нашы госці!*

*Калі гамоніць за сталом вялікі род —*
*Мы прасвятляемся яго святою сілай.*
*Падымем чары — за народ,*
*І каб дужэлі мы штогод,*
*За родны край,*
*За моцны род*
*І бераг мілы!*

*Падымем тосты — за гасцей,*
*Каб сустракацца нам часцей,*
*І каб вітацца нам часцей — у весялосці!*
*Дабром вітаем мы гасцей,*
*І рады мы, калі — э-гэ-эй! —*
*З гаспадарамі весяляцца нашы госці!*

*Звініць вясёлы смех дзяцей —*
*І добра нам сярод гасцей…*
*Нам ёсць пра што пагаварыць,*
*Пакуль жыццё яшчэ гарыць…*

## Працяг

Прысвячаю Алегу Бембелю:
паэту Зьнічу і манаху Іаану

*Не той паэт мецьме працяг,*
*Хто назбіраў рыфмаў у схоў*
*Ды размяняў жыццё на пенсы…*
*Мудры невадам хонкіх слоў*
*Цягне з акіяну быцця*
*Высокія ды глыбокія сэнсы.*

*…І што знаходзіш*
*паміж*
*радкоў вершаў —*
*Тое і ёсць Звыш:*
*Набытак найлепшы.*

Наталля САВЕТНАЯ



***

*Туман са смакам даядаў сумёт*
*І лашчыў брук, што холадам апалены,*
*З дажджамі разам туманы злізваў лёд,*
*Дыміўся сівізною над праталінай.*

*У полі віўся, слаўся над ракой*
*І плыў кудысь дарогаю пустыннаю.*
*— Гарыць зіма! — сказаў сыночак мой. —*
*Імчыць вясна пажарнаю машынаю.*

***

*Камяк зямлі засох зусім*
*Ў кашпо для кветак.*
*Маленькі парастак у ім*
*Пакінуў нехта.*

*Шукае вільгаць, хоча жыць*
*Карэньчык тонкі.*
*А на двары ўжо капяжы*
*Співаюць звонка.*

*Яму б хоць кроплю той вады,*
*З ручча на галах,*
*Ах, як бы кветачка тады*
*Закрасавала.*

## Планета

*Канечне, планета жывая.*
*І сэрца яе не маўчыць,*
*І часам бяссонне даймае.*
*Ці мала для суму прычын?*

*Кружляе, працятая воссю,*
*Скрозь час і прастору плыве.*
*Хіснулася вось? Падалося…*
*І свет праз стагоддзі жыве.*

*Зноў холад, хваробы, спякота,*
*Зноў рвецца зямная кара.*
*Хапае бяды ёй, гаротнай,*
*Але ж ці хапае дабра?*

## Скруха

*Хтосьці так недарэчна,*
*Жорстка і без ваганняў,*
*Сэрца маё знявечыў,*
*Песні забраў гучанне.*

*Скруха паўзе паволі,*
*Быццам за мною сочыць,*
*Сэрца сціскае болем,*
*Паліць слязою вочы.*

*Сцісну далонню крыжык*
*І памалюся ціха.*
*Не разгубіцца. Выжыць.*
*Пераадолець ліха.*

**Пераклад з рускай мовы Аксаны Ярашонак**

Алесь КАРАНЕЎСКІ



***

*Нябесны млын змалоў дзень белы.*
*Абдымкі светлай цішыні*
*Прымае ноч… І ў сон нясмелы*
*Злятаюць водгукі віны.*

*Іскрыцца стружка ў снежным срэбры,*
*Дзе з Месяцам сівы мароз*
*Шукаюць паасобку ў цемры*
*Стракатыя ствалы бяроз.*

*І цішыня чароўнай ласкай*
*Люляе час жывы услед,*
*Гартае ў снах старонкі казкі*
*Таму, хто ў сэрцы носіць свет.*

## Журлівы вальс

*Пакуль цябе убачу,*
*Брыду па мокрым снезе.*
*І побач людзі-качкі*
*Слату з шарошам месяць.*

*Адранку дзіва ўстала*
*І дрэвы для спаткання*
*Зрабіла над лякала*
*Святлом зачаравання.*

*Вада вяртанне кружыць*
*Ціхоняю на месца.*
*Карункі нехта купіць…*
*Адліга месіць цеста.*

*І я гляджу пад ногі,*
*А больш уверх на вецце*
*Скаваных ліп аблогай*
*Туману на праспекце.*

*І бачыцца, што зрання*
*Люляла прыгажосцю,*
*Парушыла ўсе грані,*
*Як стомленыя госці.*

*Ты не прыйшла — прычына*
*(Сюрпрызы пнуць зімою),*
*Бо я пражыў хвіліны*
*У думках не з табою…*

***

*Цяпло не хоча здужаць.*
*Не можна зразумець:*
*Ці крохкі холад лужын,*
*Ці сонечная медзь*

*Галоўныя пры гэтым.*
*І што тут ні кажы —*
*Навокал пух сусвету,*
*Ці лета міражы!*

*Лянота, як пяшчота.*
*Душа зімой жыве.*
*І светлая дрымота,*
*Як белы сон, плыве.*

*Ужо шпакі на месцы*
*Мо тыдзень… Не заве*
*Вясновы водар месны*
*У сонечным вакне.*

*Бо мала — не хапіла*
*Свабодных белых мух —*
*І вабнага вятрыла*
*Дзівосных завірух!*



Фота Кастуся Дробава

Васіль ГІГЕВІЧ

*Два апавяданні*

# Мікіта



У палаце ля сцяны ляжыць на ложку Мікіта.

Мікіта невысокага — каля метра шасцідзесяці — росту, але шыракаваты ў плячах, ужо з жывоцікам. Бледны твар трохі адутлаваты, і за час, калі ляжыць у палаце, адраслі чорныя густыя валасы: барада — не барада, а так — шчаціння… Гэткія ж чорныя густыя і коратка падстрыжаныя валасы на яго вялікім круглым чэрапе. Прасвечваюць першыя сівыя валасы. Вочы ў Мікіты чорныя, круглыя і рухавыя. Ён і сам рухавы: пры хадзьбе хутка перабірае каратканогімі нагамі, па-жаночы памахваючы ўзбоч цела рукамі. Ёсць у ім штосьці ні то цыганіста, ні то яўрэйскае.

Наткнуўшыся позіркам на Мікіту, думаю, што, калі пагадзіцца з індыйскімі вучэннямі пра перасяленне душ, то ў папярэднім жыцці Мікіта быў катом, — не тоўстым і вальяжным, не.

Садзіцца на ложку і пільна глядзіць на мяне:

— Слухай, ты дзе швэндаешся? Братва хвалюецца…

Як упершыню акідваю поглядам ложкі з хворымі... Братва.

У бальніцы ці то ад адзіноты, ці то яшчэ чаму людзі раскрываюцца ў маналогах, як у царкве спавядаюцца. Можа, гэта таму, што хочаш не хочаш, а думаецца пра блізасць таго непазбежнага, ад чаго дагэтуль адгароджваешся работаю, клопатамі — усім, што жыццём называецца…

З Мікітам не сумна, хоць ён увесь час жаліцца: то ў яго галава баліць, то косці ломяць, то ліпкім потам цела пакрываецца.

Мікіта абвёў мяне позіркам, чмокнуў вуснамі і гаворыць:

— Пакуль ты невядома дзе лётаў, тут абход быў. Нічога ў мяне не знайшлі. У гэтым годзе мяне як сурочылі. Спачатку мама памерла. Затым дзед ні з таго ні з сяго, — за тыдзень у бальніцы згарэў, думаю, што яго залячылі. Слухай, можа, мне ў царкву схадзіць?

Мікіта замаўкае, гледзячы то на мяне, то на падлогу. Нечакана ўсміхаецца:

— Дзед у мяне быў класны. Высачэнны, здаравушчы. У сваіх далонях мае два кулакі хаваў. Ён у Глушы з бабаю жыў. Маці на лета да іх выпраўляла. Свабода. Я люблю свабоду. У дзеда пуга была. Пугаўё кароткае. А сама пуга доўгая, раменная. На канцы валасяная пляцёнка. Дзед страляў пугаю, — як з пісталета аглушаў. Калі што якое — за пугу браўся. Я тут жа дзёру…

Мікіта гаворыць кароткімі рубленымі сказамі. Усміхаецца. Усміхаюся таксама. Уяўляю і дзеда з пугаю, і яго, Мікіту, падобнага на ката…

— Дзед з бабаю на работу пайшлі. Аднаго ў хаце пакінулі. Сказалі: прынясе паштарка пенсію — забяры. Паштаркаю была суседка цётка Галя. Прынесла. У мяне вочкі загарэліся. За тры кіламетры ад дома магазін быў. Я — туды. А там чаго толькі няма. Гляджу — электрагітара! Пенсіі якраз хапіла. Дамоў вяртаюся. Дзед з бабаю сядзяць, я перад імі пахаджваю, на электрагітары іграю.

— Адкуль гітара? — дзед пытае.

— А гэта мне падарылі.

Тут цётка Галя ў хату.

— Галя, пенсію сягоння не давалі?

— Дык я ж яе вашаму аддала.

Дзед за пугу. Не помню, як цераз плот пераляцеў. Над вухам стрэл пачуў. Ішлі да магазіна разам. Дзед па дарозе, а я збоку, за кустамі хаваючыся. Усміхаемся. Быццам ля вогнішча грэемся.

— У дзеда нутрыі былі. Мы іх потым на рынку прадавалі. Каб людзі нутрый за трусоў прымалі, мы на іх лапкі трусіныя нацягвалі… Дзед на работу выправіўся. Я клеткі паадчыняў. Нутрыі распаўзліся па ўсім агародзе. Дзед надвячорак іх збіраў. І зноў жа — пуга шчоўкала. Я дамоў не пайшоў. Сцямнелася. Баба і так, і сяк — клікала. Тады ўжо, калі дзед храпака задаў, я вярнуўся. Каб ён не хроп надта, яму прышчэпкаю нос заціскаў.

Магазін у пасёлку ніхто надта і не ахоўваў. З сябруком сядзім на страсе магазіна. Маці яго магазіншчыцаю была. Разважаю: а чаго мы галадаць павінны? Намурзаліся цукерак, шакаладу… І зноў жа — пуга свісталa.

У сябрука гранату выменяў. Не асколачную, а — шумавую. У школе паяўляюся. За чаку ўзяўшыся, па класе пахаджваю, на пальцы гранату пакручваю. Вучылка ўбачыла, млець пачала. Акружылі, у спартзалу загналі. Я выкруціўся. Дамоў іду, а па дарозе дом нежылы, людзей адсялілі, але вокны, дзверы ёсць. Я чаку выдзёргваю і гранату ў акно. Бабахнула. Дым. Пыл. Грукат. Міліцыя ў хату — дзе граната?

— Ды яе ў мяне не было ніколі. Я з пластыліну зляпіў, а ім падалося.

Маці з рэменем ганялася. Бацькі тады дома не было. Тры разы на адсідках сядзеў…

Пасля таго выбуху, калі яе з работы выклікалі, я на дрэва ўскочыў. У нашым двары высачэнная тапoля стаяла. Сам не помню, як усё атрымалася. Залезці — залез, а назад спусціцца не магу. Маці ўжо і ўгаворвала — не магу… Лесвіцу аднекуль прыцягнулі.

Мікіта ўспамінае:

— Двор у нас быў вялікі. Дзеці з дня да вечара на ім круціліся. Дарослыя. У карты гулялі. На грошы. Да школы не паспяваў дайсці. У футбол гулялі. Нагуляўшыся, успацелыя ў магазін ідзем. Набіраем, хто чаго хоча: печыва, цукерак, пітво…

— А грошы?

Мікіта глядзіць на мяне, як на нябогу ці калеку…

— Так бралі. У кішэні клалі, за пазуху. У падвалах з фомкамі арудавалі. Тады яшчэ людзі, дачы займеўшы, у падвалах хавалі варэнне, кампоты…

А потым бойкі пачаліся. Гэта ўжо як старэйшымі сталі. Раён на раён хадзілі. Малінаўка на Серабранку. Чалавек да пяцідзесяці з аднаго боку набіралася. Дзіцячыя пляцоўкі, дошкі, ланцугі ад арэляў — нічога пасля не заставалася…

Я неяк выйшаў на двор. Бацька сказаў вынесці смецце. Ён у той час пасля чарговай адсідкі дамоў вярнуўся.

Як толькі да бака падышоў, ззаду — цэп: «Ты з гэтага двара?» І тут жа давай мяне малаціць.

У палату зайшла медсястра, пачала ставіць крапельніцу. Пакуль медсястра рабіла сваю работу, я, гледзячы на Мікіту, думаю.

Біліся і ў нас. Вёска на вёску. Што, якая сіла гуртавала нас на бойкі?

На другім курсе прэстыжнага факультэта, як тады вялося, была паездка ў калгас — на ўборку. Быў цягнік, было шумна і весела. Гучала гітара, гучалі Высоцкі і Акуджава. Па праходзе вагона соўгаліся піраты: адзін з завязаным чорнаю павязкаю вокам, у парванай цяльняшцы, нёс на выцягнутай руцэ шапку і жалобна, бы старац, цягнуў: «Скіньцесь, граждане, па капеечцы». Другі, высачэнны і шыракаплечы, таксама ў нейкім рванні, глуха басіў: «...я імею ввіду па рублю…»

Сярод ночы быў супынак у невядомым горадку. Дзе хто высыпаў на перон. І тут нечакана па вагоне шаляснула: «Нашых б'юць…»

Як нячыстую сілу нас вынесла з вагона. Дзе былі тыя, якія асмеліліся біць нашых?

Цемната. Неасветленыя вуліцы і завулкі вядуць ад перона ў розныя кірункі. Згуртаваныя злосцю да не нашых, мы панесліся ў цямнечу.

Добра памятаю, што ўсё тое, да чаго гадамі прывучаўся, чаму вучылі ў школе і інстытуце, тут жа выветрылася, як ніколі і не было, застаўся толькі незразумелы мне агністы пякучы шал нянавісці і азвярэння, якога дагэтуль не адчуваў і якому — як гэта жахліва! — мне было саладка аддацца.

Са свістам і крыкамі несліся хлопцы ў цемені, і тут я ўгледзеў аднагодка, — ля нейкага плота ён стаяў, прыціснуўшыся, амаль зліўшыся з шэрымі дошкамі. Ён быў не наш, і я, ахоплены шалам дзікасці і азвярэння, панёсся да яго. Замахнуўся. Ён быў спалоханы і пабялелы. Ён і не думаў біцца. Падняўшы да твара сагнутую ў локці руку, ён усяго толькі прыкрыў вочы. Калі б ён супраціўляўся, калі б ён кінуўся да мяне з кулакамі…

Калі я ўбачыў спалоханыя нерухомыя вочы, як скрозь туман, мяне штосьці працверазіла. Я адчуў шкадобу… Прысаромлены нябачнай, незразумелай шкадобаю, я ціха вярнуўся да вагона.

У чалавеку гнездзіцца шмат чаго добрага, але ж, мабыць, у ім не менш таго цёмнага, злога, азвярыністага, што ў любы міг можа выплеснуцца, і тады ўжо, забыўшыся пра розум, мараль і логіку, чалавек з чыстым сумленнем гатовы не толькі біць, але і жыццём паліць бліжняга.

Ці не з гэтага і пачынаюцца войны?

Медсястра выйшла з палаты, Мікіта зноўку спавядаецца:

— Двор цяпер пусты. Няма дзяцей. Усе ў кватэрах сядзяць, у камп'ютарных гульнях. Аднагодкі паспіваліся, павымiралі. Сумна цяпер.

— А як жа ты ўцалеў?

— А што я? Не лепшы і не горшы… Міліцыянер выклікаў. Відэаздымкі паказаў. Хлопцы на дзела пайшлі, і я на тым дзеле засвяціўся. Ён паказаў і кажа: «Яшчэ раз засвецішся — услед за бацькам пойдзеш». Я задумаўся.

Пасля школы зваршчыкам пачаў рабіць. У Хантымансійску год, на Сахаліне. Там карэйцы сабак ядуць. Яшчэ ў шчанюкоў яны ім на пярэдніх лапах сухажыллі падразаюць. Пасля гэтага сабакі не могуць бегаць, — так і жывуць, не ўмеючы бегаць. Затое яны смачнейшыя… Вочы на зварцы сапсаваў. Дамоў вярнуўся.

Гляджу на Мікіту. Жорсткае жыццё.

— У Германію паехаў. На разборку машын. З раніцы да вечара быў на звалцы. Без выхадных. За дзень дзве машыны разбіраў. Тады фуры прыходзяць, загружаць трэба. Восем гадоў рабіў. У Англію ездзіў. І там — звалка. Такая ж работа. Надакучыла.

Цішыня ў палаце. Як пра нешта дарагое Мікіта гаворыць:

— А дзед у мяне быў харошы. Бывала, абдыме мяне, вот так вот, — Мікіта паказвае, як яго абдымаў дзед: нахіляе галаву да левага пляча, а правай рукою абдымае яе. — Ён шкадаваў мяне…

Нейкая безабароннасць адкрываецца ў Мікіце.

А потым ён зноў:

— Усё пасыпалася ў гэтым годзе. І цiск, і гэты дыябет.

Маўчым.

Чамусьці ні з таго ні з сяго думаю пра тых няшчасных жывёлін, якім людзі падразаюць сухажыллі на пярэдніх лапах.

Мікіту ўсяго трыццаць пяць, ну мо крыху болей.

Ён зноўку пазірае ў вочы:

— Слухай, а можа, на магілкі з'ездзіць, як думаеш? Дапаможа? А то дактары кідаюцца без толку.

— З'ездзі, — адказваю. — Мне дапамагае.

# Прымадонна

Дробнага кармовага матыля ў гарадскіх рыбацкіх магазінах няма ні днём, ні вечарам. А тым болей не знайсці яго ў пятніцу перад выхаднымі. Маецца матыль на вялікім, вядомым усяму гораду рынку, дзе лепяцца рыбацкія кіёскі, а побач з імі блішчаць каляровыя шыльды прадуктовых «Сайгонаў».

Надвячорак. Мароз — за дзесяць градусаў. Пятая гадзіна. Ужо добра цямнеецца, — без надзеі на шчасце я сунуўся па рынку і ўсюды бачыў зашморгнутыя белымі жалюзі кіёскі. Пустата. Без матыля, без добрай прыкормкі будучая рыбалка, лічы, ляснецца.

І тут — о цуд! — адзін кіёск адчынены. За прылаўкам прадаўшчыца. Кармавы матыль? Ды колькі хочаш. Дзесяць, дваццаць грамаў, а мо — болей?

Колькі ёй было гадоў? Ад дваццаці пяці да трыццаці. Твар белы і поўны, — такія твары бываюць у вясковых працавітых жанчын. Гэткімі ж поўнымі былі нефарбаваныя вусны, пальцы, якімі яна даставала аднекуль з-пад поўных грудзей, прыкрытых балоневай шэраю курткаю газетны пакет. Яна асцярожна выкладала пакет на прылавак, разгортвала і на вока адмярала дарагушчага мне матыля, — аж па тры тысячы за дзесяць грамаў.

Яна была шчодрай і бясхітраснай, гэта было бачна не толькі па тым, як яна не шкадуючы клала мне матыля, але і па яе лагоднай усмешцы. У яе былі ўжо не дзявочыя, а жаночыя запаволеныя рухі.

Канечне, яна была не сучасная схуднелая. Высахлая, танканогая офісная прыгажуня — з падведзенымі веямі і фарбаванымі вуснамі — не, такіх офісных прыгажунь да матыля і кіем не загоніш, а тым болей стыць на холадзе і грэць ля грудзей матыля…

На пытанне, чаму гэтак позна тут стаіць, атрымаў лагічны адказ:

— Я позна на работу выходжу. Пазней і дамоў вяртаюся. Такім во, — ківае галавою на мяне, — нябогам памагаю.

Так і пайшоў з рынку ашчасліўлены яе бяскрыўднай усмешкаю.

Мінула пару тыдняў. Зноўку надвячорак. Зноўку перад вачыма зачыненыя рыбацкія кіёскі. Я сунуўся між радам рыбацкіх кіёскаў і яшчэ адчыненымі прадуктовымі ларкамі, над якімі гарэлі неонавыя жоўта-ружовыя «Сайгоны». Перад блізкімі навагоднімі святамі ў ларках ішлі гульбішчы, — пасля работы тут гудзелі прадаўцы, грузчыкі, прыбіральшчыкі смецця, бамжы. Кіёск знаёмай прадаўшчыцы быў зачынены. Праклінаючы сябе за вечныя спазненні, збіраўся пакідаць рынак, ды тут, ля ўваходу ў адзін з асветленых знутры «Сайгонаў», угледзеў знаёмую.

У «Сайгоне» грымела музыка і пад яе ні крапелькі за гады не пастарэлая Пугачова адчайнакрыклiва цягнула адное і тое ж: «…прымадонна…»

Мне ўжо знаёмая прымадонна пад гэту музыку танцавала на асфальце перад «Сайгонам» з нейкім мятым мужчынам сярэдняга веку — абняўшыся, яны ківаліся з боку на бок. На ёй была ўсё тая ж шэрая куртка, з-пад якой некалі даставала матыля, тоўстыя рыбацкія штаны. Праходзячы паўз танцораў, я перасекся з прадаўшчыцаю позіркам і тут — дзе маё не прападала! — кінуў без надзеі на шчасце:

— Матыль ёсць?

— Ёсць.

Яна тут жа адхінулася ад кавалера і з усё той жа бяскрыўднай усмешкаю падышла як да добра знаёмага.

— У мяне сягоння дзень нараджэння. Пайшлі ў «Сайгон». Па чарачцы возьмем. Я частую.

Акінуў вокам гульбішча.

Усё яшчэ адчайна лямантавала Пугачова пра няшчаснае каханне прымадонны. Шнырылі тудысюды вёрткія невысокія в'етнамцы ці кітайцы — не разабраць у паўзмроку, за шкляннымі дзвярыма блішчэла цырата на стале, вакол яго сядзелі мужчыны і жанчыны. Высілася стойка са сценачкаю бутэлек з прыгожымі каляровымі наклейкамі.

— Тады, можа, хоць па бутэрбродзіку возьмем, калі нельга… У мяне ж дзень…

Яна была занадта шчырая і занадта разняволеная. Усё было б добра, калі б не чырванелі на яе белым твары свежыя драпіны, якія паяўляюцца ад кіпцюроў. І на шчоках яны былі, і на лобе…

У «Сайгоне» на стале, дзе былі бутэрброды і бутэлькі, яна разгарнула ўжо знаёмы газетны пакет з чырвоным матылём.

Ішоў з рынку. За спінаю гучала і гучала адчайнае:

— Прыма-а-а-донна…

# Два аўтары адной кнігі

**На кніжнай выстаўцы ў Мінску французскі стэнд заўжды адзін з самых прывабных, і сярод выданняў, якія прывозяць да нас французы, заўсёды ёсць дзіцячыя кнігі. Гэтым разам была магчымасць пазнаёміцца і з іх аўтарамі — пісьменнікам Жанам-Філіпам Ару-Віньё і ілюстратарам Дамінік Карбасон.**



Малюнак Дамінік Карбасон

*Пяцёра братоў Жанаў — героі серыі кніг «Прыгоды сямейкі з Шэрбура» — спісаныя аўтарам з уласных братоў і сябе самога.*




ПЕРАДГІСТОРЫЯ

Жан-Філіп Ару-Віньё — аўтар серыі кніг «Прыгоды сямейкі з Шэрбура», якая адразу займела вялікі поспех, і тут немалая заслуга мастачкі Дамінік Карбасон.

Да таго як стаць аўтарам кніг для дзяцей і юнацтва (у Францыі гэта катэгорыя чытачоў ад 8 да 13 гадоў), Жан-Філіп напісаў 10 раманаў для сталай аўдыторыі, але хутка зразумеў, што калі і надалей будзе пісаць "сур'ёзныя" кнігі, наўрад ці здолее вольна фантазіраваць у творах для дзяцей. Вярнуўшыся ва ўласнае дзяцінства, Жан-Філіп прыдумаў трох сяброў-дэтэктываў. Першая кніга напісалася вельмі хутка — за два тыдні. Так з'явілася серыя «Расследаванні ў каледжы».

У тым, што ён стаў пісьменнікам, Жан-Філіп «абвінавачвае» любоў да чытання, якая нарадзілася ў 8 гадоў і выявілася ў вялікай калекцыі спажытых дэтэктываў для падлеткаў.

«Я пачаў пісаць для таго, каб пабыць некім іншым — камісарам паліцыі, даследчыкам, — і ў кнігах я даваў сабе гэтыя ролі. Але ў пэўны момант захацелася прыгадаць сваё дзяцінства, сваю шумную сям'ю, дзе было шэсць братоў і кожнага звалі Жанам: Жан-П'ер, Жан-Паскаль, Жан-Франсуа… Часам мая сям'я нагадвала мне каманду па баскетболе».

Акрамя таго, што ў сям'і Жана-Філіпа было шэсць дзяцей, вельмі шумных і актыўных хлопчыкаў, пачалі з'яўляцца яшчэ і хатнія жывёлы: кожны хацеў займець свайго асабістага сябра. «Так у доме пасяліліся чарапашкі, хамякі, акварыумныя рыбкі і нават пеўнік, які вельмі дакучаў нашым гасцям, бегаючы за кожным з іх па садзе і выяўляючы свой буйны нораў».

ВЯСЁЛАЯ АНАМАСТЫКА

Канечне, у творах, якія атрымаліся ў Жана-Філіпа, шмат выдумкі. Асобныя эпізоды з жыцця абрасталі фантазіямі ці ўвогуле перапісваліся наноў. Такім чынам, кнігі Жана-Філіпа можна назваць дадуманай аўтабіяграфіяй, і цяжка цяпер сказаць, чаго там болей.

Героі кнігі пра сямейку з Шэрбура, як і сапраўдныя браты пісьменніка, атрымалі імя Жан, а вось замест другога імені аўтар даў у якасці распазнавальнага знака літары алфавіту: Жан А, Жан Б, Жан В і г. д. — прычым да кожнай літары з часам дадалася мянушка. Так, Жана А празвалі Арыстакратам, бо ён быў самы старэйшы, самы адстаронены і самы разумны (як ён сам лічыў) і з'яўляўся, такім чынам, лідарам іх маленькай сямейнай банды. Жан Б (гэта і ёсць аўтар) стаў Булкай, бо любіў паесці і быў сімпатычным таўстуном. Жан В быў летуценнікам, таму В расшыфроўвалася як «Лунае ў аблоках» («Витает в облаках» у рускім перакладзе). Самы малодшы — Жан Е, але ён не паспеў атрымаць мянушку, бо яшчэ не выявіў асаблівых рыс ці звычак.

Жывёлы таксама мелі патрэбу ў імёнах. Хамячка Жан-Філіп назваў Бэтмэнам: той таксама меў вострыя вушкі і быў абсалютна бяскрыўдным (прынамсі, для добрых людзей). Таксама ў доме жыла рыбка, якую яшчэ малько прынеслі са шпацыру па беразе возера. Рыбку назвалі Супазітарыяй.

Лёс залатых рыбак вырашыў слоўнік. Хлопчыкі адкрывалі яго на выпадковых месцах, і першае слова, якое траплялася на вочы, адразу прызнавалася за афіцыйнае імя рыбкі (пратэставаць яна не магла). Так да хатняга заапарку дадаліся Велінгтан і Закускі.

ЛІШНІ БРАТ

Як распавяла Дамінік Карбасон, любоў да малявання з'явілася ў яе яшчэ ў школе, калі яна размалёўвала палі ў сшытках, за што яе нязменна ставілі ў кут. Перацярпеўшы такія пакуты за мастацтва, Дамінік падумала: а чаму б не стаць прафесійным ілюстратарам?

Сёння Дамінік — вядомы ілюстратар. Яна скончыла Вышэйшую нацыянальную школу прыкладнога мастацтва і рамёстваў, нейкі час працавала стылістам, потым — ілюстратарам для кампаніі «Habitat» і галерэі «Lafayette». Сёння Дамінік займаецца жывапісам, рэгулярна праводзіць выстаўкі ў Парыжы, Дзінары, Жэневе і Токіа і працуе ілюстратарам у глянцавых часопісах Францыі і выдавецтвах «Gallimard» і «Nathan». Яе малюнкі выкарыстоўваюцца таксама ў рэкламе і модзе.

Праца над кнігамі пра сямейку з Шэрбура надзвычай падабалася Дамінік, бо сямейка Жанаў вельмі нагадвала ёй уласную сям'ю: хоць у яе не было родных братоў, стрыечных мелася вялікая колькасць. Кніга выклікала прыемныя ўспаміны пра дзяцінства, таму працаваць Дамінік было лёгка і прыемна.

А яшчэ гэтая праца ўсур'ёз захапляла, бо Жан-Філіп пастаянна дапісваў новыя часткі сваіх кніг, з'яўляліся новыя героі — браты, сябры сям'і, хатнія жывёлы, — і ўсе гэтыя змены мастачка перажывала разам з пісьменнікам. «Тым больш што піша ён вельмі хараша, лёгка і ясна», — кажа Дамінік.

Для ілюстравання яна заўжды абірала моманты, па яе думку, найбольш значныя. Да кожнага раздзела ў кнігах маецца своеасаблівы мастацкі ўступ — невялікі малюнак. Ён знаёміць нас з героямі і асобнымі сцэнамі, пра якія далей будзе распавядацца больш падрабязна. Дамінік распавяла: гісторыя Жана-Філіпа так спадабалася ёй, што ў выніку ілюстрацый атрымалася нашмат больш, чым магла змясціць кніга. Іншым разам мастачка, захапіўшыся маляваннем, стварала персанажаў, якіх у кнізе няма. Напрыклад, аднойчы Жан-Філіп і выдавец праглядалі кнігу, ужо рыхтуючы яе да друку, калі раптам заўважылі, што на малюнку замест шасці братоў — сем.

Як лічыць Дамінік, ілюстрацыі патрэбныя не толькі дзецям, але і іх бацькам, таму падчас працы, ствараючы герояў у іншым вымярэнні, надаючы ім адметныя рысы і вымалёўваючы дэталі, яна думае і пра дарослых чытачоў.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Жанры змешваюцца, фантастыка перамагае




*Ілюстратар Дамінік Карбасон і пісьменнік Жан-Філіп Ару-Віньё падчас сустрэчы з чытачамі на кніжнай выстаўцы ў Мінску.*

Пасля сустрэчы з чытачамі пісьменнік Жан-Філіп Ару-Віньё адказаў на шэраг пытанняў «ЛіМа».

**— Вы казалі, што палюбілі чытанне з васьмі гадоў. Цікава, якія аўтары да гэтага спрычыніліся?**

— Сапраўды, чытанне — маё вялікае захапленне з самага дзяцінства, і любіў я дэтэктыўныя гісторыі. А выходзіла іх у Францыі — і сваіх, і ў перакладах — вельмі шмат: маленькія дэтэктыўчыкі, прыгодніцкія раманы, серыі для падлеткаў.

**— То бок, класікай не захапляліся?**

— Што датычыць французскай класікі, калі мне было гадоў пятнаццаць, бацькі казалі: «Паслухай, ці не час пераходзіць на сур'ёзную літаратуру?» Я ўсё яшчэ чытаў дэтэктывы для дзяцей. Аднак потым мяне захапіла і класічная літаратура. Настолькі, што я абраў гэта прафесіяй — скончыў філалагічны факультэт, стаў выкладчыкам французскай мовы. Насамрэч, нават сёння, ужо стаўшы пісьменнікам, па-ранейшаму з цеплынёю згадваю дэтэктыўныя гісторыі, што выходзілі серыямі, якія цяпер шукаю ў букіністаў. У мяне дома цэлая бібліятэка букіністычных выданняў 1970-х гадоў.

**— Наконт папулярных кніг. Не сакрэт, што многія аўтары ціха крыўдзяцца на «Гары Потэра», які заняў столькі месца на паліцах юных чытачоў. А як ставіцца да магічнай эпапеі вашыя калегі?**

— Можна толькі пазайздросціць аўтару — настолькі таленавітаму, што ён здолеў прыдумаць персанажа, цікавага дарослым і дзецям па ўсім свеце. Пасля «Гары Потэра» дзеці не баяцца размаўляць пра літаратуру і хочуць абмяркоўваць тое, што чытаюць. Яны літаральна вырывалі з рук адно ў аднога кніжкі, калі тыя толькі выходзілі, абмяркоўвалі іх на форумах, у школах на перапынках, і гэта дало магчымасць зразумець іншым аўтарам, што, аказваецца, такое магчыма — напісаць кнігу ў 400 старонак, якую дзеці стануць чытаць і будуць чакаць працягу. Так у Францыі ўзнавілася цікаўнасць да чытання як такога ў школьнікаў малодшых класаў.

**— Вы пішаце і для дзяцей, і для дарослых. Што, як вам падаецца, больш складана?**

— Вызначыць немагчыма, бо гэта дзве іпастасі мяне як аўтара. Калі пішу для дарослых, то і адчуваю сябе дарослым, такім, які я ёсць сёння. Калі пішу для дзяцей, то ўзгадваю, якое я дзіця, і мне ўдаецца адшукаць патрэбную інтанацыю.

**— А што прыносіць больш радасці?**

— Усё ж такі дзіцячая літаратура. Вось ужо дзесяць гадоў, як я зусім не пішу для дарослых.

**— І як мяркуеце: яшчэ вернецеся да гэтай працы?**

— Цяжка сказаць, таму што тэмы прыходзяць самі па сабе, і сёння ў мяне ўзнікаюць ідэі для аповедаў дзіцячых. Але калі аднойчы прыйдзе тэма для «дарослай» кнігі — то я, канечне, да гэтага вярнуся. Што да маёй прафесійнай дзейнасці — я член рэдкалегіі выдавецтва «Gallimard» — менавіта серыі для дзяцей і юнацтва, і праз гэта таксама больш звязаны з дзіцячай літаратурай.

**— У такім разе маглі б вы ў агульных словах распавесці пра дзіцячую літаратуру сучаснай Францыі?**

— Ведаеце, ёсць перавага ў бок фантастыкі. «Гары Потэр» паклаў гэтаму добры пачатак. Таксама, я заўважыў, папулярныя сталі драконы. Набірае папулярнасць літаратура, якая адлюстроўвае паўсядзённае жыццё падлеткаў: ці то з гумарыстычнага боку, ці то з больш-менш сур'ёзным аналізам. Яшчэ адна тэндэнцыя, прадстаўніком якой з'яўляецца Ціматэ дэ Фамбэль (таксама госць выстаўкі), — калі цяжка вызначыць жанр напісанага: і прыгодніцкая літаратура, і рысы дэктэктыва, і любоўная лінія. Уключэнне ў твор элементаў розных жанраў — гэта сёння вельмі папулярна.

**— Быць можа, такая эклектыка — уплыў «вялікай», "дарослай" літаратуры?**

— Сапраўды, пэўна, у нечым гэта набліжае дзіцячыя творы да дарослай літаратуры, і ўсё ж у Францыі, калі аўтар працуе для дарослай аўдыторыі, жанры яго твораў даволі выразна канкрэтызаваныя. А вось дзіцячая літаратура дазваляе быць вольным і паспрабаваць усяго патроху. І яшчэ адна выснова, якую я магу зрабіць, мяркуючы па развіцці дзіцячай літаратуры ў Францыі: маладыя аўтары, якія сёння набываюць папулярнасць, у тым ліку Ціматэ дэ Фамбель, — гэта аўтары, якія з часам зоймуць годнае месца не толькі ў сваім жанры, але і ўвогуле ў пантэоне лепшых аўтараў французскай літаратуры. Дзіцячая літаратура сапраўды дае магчымасць раскрыць пісьменніцкі талент.

**— Назавіце яшчэ колькі яркіх, шматабяцальных імёнаў?**

— Жан-Клод Мурлева, Франсуа Плас (ён таксама ілюстраваў кнігу Ціматэ дэ Фамбэля «Тобі Лолнэс»), Ан-Лор Бонду.

**Наста ГРЫШЧУК, фота аўтара**

# Маленькім чытачам — вялікі павільён

**Што рабілі занепакоеныя, вечна занятыя мамы і іх непаслухмяныя, але вельмі цікаўныя дзеткі на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы? Вядома ж, гарталі маляўнічыя старонкі, зазіралі пад вокладкі, спадзяваліся, напэўна, знайсці калі не скарб, то ўжо сапраўды незвычайных герояў і цікавыя сюжэты. «Палітра» дзіцячай літаратуры падчас сталічнага кніжнага форуму, без перабольшання, пералівалася ўсімі адценнямі густаў. Тут можна было знайсці, з аднаго боку, традыцыйныя народныя казкі ў духу Калабка ці Рэпкі альбо класіку ў выкананні Шарля Перо і Джані Радары. А з другога — абсалютна новыя і нечаканыя вобразы: пра чароўнага Субасціка з пятачком замест носа, чалавечкаў з мешкавіны, экзатычную маніоку, ванільны пунш жаданняў ці маленькага Бабо з сямейства сонь!**

### НЕ ПА ДНЯХ, А ПА ХВІЛІНАХ!

Клапатлівыя бацькі актыўна вучаць дзяцей яшчэ перад школай — трэніруюць логіку, памяць, увагу, фантазію. На Мінскай кніжнай выстаўцы размясціўся велізарны шэраг кніг па ўсебаковым развіцці маленькіх першаадкрывальнікаў.

Яркія буквары і зборнікі казак здзіўлялі арыгінальным дызайнам і незвычайнай формай падачы: з малюнкамі, налепкамі, карткамі, панарамкамі, кубікамі, лато, пазламі і нават майстар-класамі па лепцы з пластыліну. Відаць, сучасныя стваральнікі кніжак для самых маленькіх імкнуцца зрабіць запамінанне літар і слоў справай прыемнай і лёгкай, таму выкарыстоўваюць папулярную у педагогіцы гульнявую методыку навучання.

Некаторыя кніжкі нават песні выконвалі варта — было толькі націснуць на кнопку, а іншыя — прапаноўвалі зрабіць сваімі рукамі арыгінальныя вырабы з паперы, уявіць сябе кінарэжысёрам альбо пашыць грацыёзную прыгажуню лялькy! Хлапчукоў таксама было чым зацікавіць — хаця б вялікімі маляўнічымі энцыклапедыямі пра самалёты, зброю, аўтамабілі альбо космас. Нават для будучых вучоных і мастакоў знайшлася патрэбная літаратура — «Вялікая кніга эксперыментаў», напрыклад, ці серыя «Урокі вялікіх» з рэпрадукцыямі карцін.

Цікавую рэч стварылі Марына і Васіль Рамодзіны — «Чаму вецер дзьме, сэрца стукае, а чаравікі не лятаюць?». Кнігу можна смела назваць вартай альтэрнатывай «сухой» і звыклай энцыклапедыі пра ўсё на свеце. На старонках апісана мноства цікавых доследаў і фактаў, але ў больш мастацкай форме. «Адкрый гэтую кнігу — і ты зразумееш, адкуль бяруцца абlокі і чаму ў небе свеціць вясёлка, па якой прычыне жоўкне лісце і навошта восенню птушкі ляцяць на поўдзень», — абяцаюць аўтары ў прадмове.

Да матулі, у якой дзіця не слухаецца, раптам прыходзіць «Дапаможнік па ўтаймаванні маленькіх шкоднікаў» Юліі Шчарбінінай. Пісьменніца распавядае пра «юных грубіянаў, маленькіх нэндзаў і капрызуль» і дае каштоўныя парады бацькам. Падтрымлівае яе ініцыятыву выбітны педагог Януш Корчак. Яго твор «Любоў да дзіцяці» таксама зацікавіў многіх дарослых.

### РОДНЫЯ СТАРОНКІ

Знайсці на сталічным форуме беларускую казку для малога, які вывучае родную мову, можна было за пару хвілін. Толькі захапіўшыся абаяльнай кнігай Наталлі Бучынскай «Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй, або adeljastar@tut.by», адразу ж сутыкаешся з сонечна-зялёнай «абалонкай» іншага выдання — вершаванага зборніка «Наша лета» Пятра Глебкі. Ледзь апамятаешся ад буйства фарбаў і погляд спыняецца на маленькім хлопчыку ў зімовай шапачцы, які пранізліва глядзіць з вокладкі «Высокага страху» Васіля Ткачова. Прымушае ўсміхнуцца добрая настаўніца Валянціна Дынько са сваёй кнігай «Дзе хаваецца небяспека, альбо Слушныя гісторыі ад бабы Валі». Дзіцячых твораў на беларускай мове на міжнароднай выстаўцы, здаецца, было дастаткова, але чагосьці ўсё роўна не хапала. Недзе «згубіліся» многія аўтары, якіх вельмі хацелася ўбачыць.




### КАЗКІ, ПРА ЯКІЯ ВЫ НІ РАЗУ НЕ ЧУЛІ

Акрамя традыцыйных любімых казак, звыклых гісторый і знаёмых персанажаў, на мінскай выстаўцы было нешта асаблівае — кнігі, якія вы не сустракалі раней, пра якія нават не падазравалі, але прыйшлі, убачылі і...ператварыліся ў зачараванага Кая са «Снежнай каралевы» Вокладкі ў іх не «крыклівыя» і стракатыя, а мяккія і цёплыя — у пастэльных, далікатных танах. Дробязь, а ўжо прыцягвае, набліжае кнігу да чытача, робіць кнігу хатняй, як, прыкладам, любімыя тэпцікі альбо плед. Але самае галоўнае, вядома, сюжэты.




«Аднойчы здарыўся такі моцны дождж, што Месяц прамок і прастудзіўся. Месяцу стала вельмі цяжка вісець у нябёсах, і ён апусціўся на зямлю. Хлопчык знайшоў яго на халодный мокрай траве і прыкрыў сваім парасонам», — пачынаецца вельмі кранальная і шчырая аповесць Леаніда Цішкова — па сутнасці, прадаўжальніка, традыцый Антуана дэ Сент-Экзюперы.




Аднымі з самых пазітыўных дзіцячых кніжак можна назваць фруктовыя і агароднінныя казкі, легенды і загадкі, прывезеныя Ганнай Строевай з розных куточкаў свету. Наўрад ці вы чулі калі-небудзь пра насенне залатой дыні, арбузы памерам з гару, прынцэсу, якая выскачыла з апельсіна, селяніна, што ўскараскаўся на неба па чароўным гароху. Гэтая кніга — выклік дакучлівым і аднатыпным аповедам пра чароўных прынцэс і прыўкрасных каралевічаў.

Як і «паветраны», прыемны, нібы пёрка, але глыбокі, чуллівы твор Марыны Арамштам «Калі адпачываюць анёлы» пра дзяўчынку, у якой не было бацькі, і яна сустрэла нябесную істоту... Ці «Цукровае дзіця» Вольгі Громавай — рэальная гісторыя пяцігадовай Элі і яе матулі, якія трапілі ў лагер падчас рэпрэсій у Савецкім Саюзе, але не страцілі пачуцця годнасці і чытаюць вершы, спяваюць, падтрымліваюць адна адну... А яшчэ — выданне «Маё шчаслівае жыццё» Русэ Лагеркранц і Эвы Эрыксан.

Выстаўка пацвердзіла: дзіцячых кніг, што прымушаюць задумацца, мала, але яны ёсць.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Казкі ў рыфму

**«Як два браты спартсменамі сталі», «Як два браты этыкет вывучалі», «Гісторыя пра Вару і Дубаваня», «Казка пра Цімку і Кузьку», «Размова пад зорным небам»…**

Аўтар гэтых ды іншых кніг, прычым не толькі дзіцячых, — паэтэса Наталля Ігнаценка. Родам яна з Магілёўшчыны, цяпер жыве ў Маскве, а нядаўна стала сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. З айчыннымі чытачамі спадарыня Наталля сустрэлася падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч распавёў, што кнігі Н. Ігнаценка выходзяць і ў айчынных выдавецтвах «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа». Адна з яе кніг, «Казачныя падарожжы з прыгодамі», перакладзена пісьменнікамі Уладзімірам Мазго ды Раісай Баравіковай і пабачыла свет па-беларуску ў Выдавецкім доме «Звязда». З рук Алеся Мікалаевіча Наталля Ігнаценка атрымала дыплом Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў. Ушанавана і званнем лаўрэата прэміі імя Канстанціна Сіманава.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў выказаў упэўненасць, што творчасць спадарыні Наталлі і ў далейшым будзе спрыяць умацаванню культурных, літаратурных сувязей паміж Расіяй і Беларуссю, а сама аўтарка напіша яшчэ шмат цікавых кніг. Паводле меркавання пісьменніка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Навумовіча, паэзія пачынаецца з узрушэння душы. Вершы Н. Ігнаценка Уладзімір Аляксандравіч назваў паэзіяй думкі.



Наталля Ігнаценка з юнымі чытачамі.

Фота Кастуся Дробава

Наталля Аляксандраўна прачытала публіцы «Казку пра Цімку і Кузьку» ды «Гісторыю пра Вару і Дубаваня», а дапамагалі ёй… цацачныя персанажы і дэкарацыі, якія з'яўляліся з чарадзейных скрыначак, прынесеных паэтэсай на сустрэчу. Свой пераклад казкі Наталлі Ігнаценка «Як два браты этыкет вывучалі» прадставіла Раіса Баравікова.

**Яна ЯВІЧ**

*Імпрэзы*

# Дзе пачатак дарогі творчай?

**Літаратурная сустрэча «Пачынаецца ў паэзію дарога...» прайшла ў Мінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.**

На імпрэзу завіталі супрацоўнікі кніжніц прысталічнага раёна, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага райвыканкама Сяргей Кудзін, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Ірына Карнаухава, Святлана Быкава і Кацярына Хадасевіч-Лісавая.

Прысутныя даведаліся, як пачынаўся творчы шлях літаратараў, адкуль яны чэрпаюць натхненне, над чым працуюць цяпер. Кнігі гэтых творцаў ды іншых пісьменнікаў прысталічча былі прадстаўлены на выстаўцы «Мінш чына літаратурная» ў фае кніжніцы. А госці падарылі кнігі бібліятэцы.

Вершы для дзяцей і дарослых ды філасофскія казкі прадставілі Ірына Карнаухава і Святлана Быкава. Кацярына Хадасевіч-Лісавая пазнаёміла прысутных з кнігамі казак.

**Кацярына СТАСЕВА**

Аблічча

# Выхад да мора Рыгора Барадуліна

Распавядалі ў Рызе пра ўражлівую раніцу, калі горад абуджаўся зладжанай песняй вясёлай тройцы. Гэта Еранім Стулпан, які разам з Уладзімірам Караткевічам вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, запрасіў для ўдакладнення сваіх новых перакладаў Караткевіча з Барадуліным. А потым вырашыў перавесці бяседу моваведаў у праходку з песняй.

Шпіль Домскага сабора і ўсіх іншых рыжскіх бажніц заканчваецца бліскучым флюгерам з фігурай пеўніка. Пра пеўніка і чула Старая Рыга народную песню, якая пачынаецца такімі словамі: «Кур ту тэцы, кур ту тэцы, гайліс ман?» («Куды ты бяжыш, куды ты бяжыш, пеўнік мой?»). Відаць, у тую раніцу сімвалічны Пеўнік з флюгера вырашыў прагуляцца разам з паэтамі. Еранім быў пачынальнікам песні, а падпявалі яму смела і ўпэўнена Уладзімір і Рыгор, якія натхнёна авалодвалі валодай (мовай) латышоў.

Да апошніх дзён усіх трох творцаў, спадзяюся, быў родненькім той Певень — сімвал Сонца, шчасця, жыццёвай сілы, захавальнік хатняга агменю.

Латвія была ўдзячна У. Караткевічу за «Казкі Янтарнай краіны». Р. Барадуліну пашанцавала больш. За перакладчыцкую дзейнасць, нястомную прапаганду латышскай літаратуры на Беларусі Рыгор Іванавіч быў удастоены найвышэйшай адзнакі Латвіі — ордэна Трох зорак. Да такой узнагароды і звання афіцэра ордэна (IV ступені) ён быў прадстаўлены 23 красавіка 1994 года. Уручэнне ж ордэна адбылося 24 лютага 1998 года ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

*Перакладаю,*
*Тлумачу,*
*Бурлачу…*

Так пісаў у адным са сваіх вершаў Рыгор Барадулін. «Ад мовы да мовы масцілася кладка…» І найперш ад мовы і да мовы Яніса Райніса (узгадаем найперш п'есу «Ветрык, вей!»). Творчымі сабрысамі-сябрамі сталі для беларуса Імантс Аўзыньш, Оярс Вацыецiс, Андрыс Веянс, Віктарс Ліўзэмніекс, Яніс Сірмбардзіс, Кнутс Скуеніекс, Еранімс Стулпанс (спрабую пазначыць дакладнае напісанне латышскіх прозвішчаў). І, як вынік, выходзіць у Рызе ў 1967 годзе зборнік вершаў Рыгора Барадуліна «Siena laiks» («Час сенакосу»). Перакладчык — Віктарс Ліўзэмніекс. А ў 1987 годзе ў Рызе быў выдрукаваны зборнік «Valoda» («Мова») — сумесная праца Рыгора Барадуліна і Яніса Сірмбардзіса.

Зямлю латышоў апявае Р. Барадулін у вершах «Леснічоўка Вэлдзіс», «Рыжскія рукавічкі», «Старая Латвія», «Зазімак у Юрмале»… А вось з «Паэмы жытняй скібе» чытач пазнае адну з радаводных ліній Рыгора:

*Мой дзед,*
*рыжанін Галвіньш,*
*Механік па млынах…*

У зборніку «Неруш» чытаю пра Маланку, жонку Андрэя Галвіньша, і пра тое, як:

*Вясёлая Кулінка*
*«Латышачкай» была…*

Кулінка — Акуліна Андрэеўна — Рыгорава мама, ад якой я ў 1969 годзе запісаў на магнітафон некалькі ўшацкіх народных песень.

На багатым шляху «З грэкаў у варагі» (ёсць такі паэтычны раздзел у Барадуліна, пазначаны 1977-м годам) засталося багата мецінак ад Рыгора Барадуліна. Паўтараю яго радкі пра радзіму Андрэя Упіта, дзед якога Грышка быў стырнавым з беларускіх берагоў Дзвіны:

*Настрой па сонцу выверы,*
*З вясёлай галавой*
*На золку выйдзі ў Скрыверы*
*Зялёнаю травой.*

Напэўна, Рыгораў вяшчун — загадкавы Певень з ужо беларускай міфалогіі — аднаго разу навёў мяне, львоўскага курсанта, на прыязнага чалавека, які стаў маім настаўнікам. І не толькі ў вершаскладанні. Своеасаблівы помнік яго апякунства — мой першы і самы дарагі зборнічак вершаў «Кастры Купалля», 1967 года нараджэння. Але я святкую і 80-годдзе ад нараджэння народнага паэта, і 50-годдзе ад першай сустрэчы з лёсавызначальным (не пабаюся гэтага слова) творцам. У падзяку Рыгоравай лагодзе было пагасцінства ў Юрмале летам 1966 года, калі Рыгор з Уладзімірам Караткевічам былі запрошаны ў бацькоўскі дом і я разам з сястрой зладзіў для беларускіх паэтаў сімвалічны «Выхад да мора». Святкавалі мы разам Сёмуху ў 1969 годзе на ўручанскіх узгорках, яшчэ не занятых гарадскімі хмарачосамі…

А сярод дарчых надпісаў на Рыгоравых кнігах больш за ўсё падыходзіць да сённяшняй тэмы яго аўтограф на зборніку «Рум»:



Фота Сяргея Панізніка

Выхад Рыгора Барадуліна да мора. Юрмала, пасёлак Каўгуры. Ліпень 1966 г.

*Сяргейка, —*
*пяць! —*
*Не ад віна*
*Табе я стаўлю*
*бал такі.*
*Нам родная з табой*
*Дзвіна —*
*Уся твая да Балтыкі!*

Рыгор. жнівень, 74 год. Мінск.

Апошнім часам выходзяць кнігі і Рыгора Барадуліна, і пра Рыгора Барадуліна. Але выхад да мора нашага шматкрылага творцы можна было б адзначыць і такім цікавым выданнем пад назвай «Вясёлая сябрына». У 1988 годзе штогоднік «Братэрства» змясціў 12 эпіграм Савося Авося (гэта адзін з псеўданімаў Р. Барадуліна) на латышскіх пісьменнікаў. Шаржы для «Вясёлай сябрыны» намаляваў Кастусь Куксо. Малавата «сябрынак» для зборніка? Можна далучыць і вершы Рыгора, прысвечаныя Латвіі і латышам, і дакумент аб узнагароджанні ордэнам Трох зорак Латвійскай Рэспублікі… Пагартайце, да прыкладу, «Дзень паэзіі» за 1975 год, дзе таксама выдрукавана многа радкоў ад Савося Авося, прысвечаных ужо нашым літаратарам. Не падыдуць экспромты і малюнкі для «Вясёлай сябрыны»? А чаму б ні прыгадаць тыя шчырыя набыткі, якія здзяйсняліся пад дэвізам дружбы літаратур. Дзеля іх і бурлачыў Рыгор Барадулін!

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# «Чатыры чвэрці»: насустрач чытачу

На нацыянальным стэндзе Беларусі падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу айчыннае прыватнае выдавецтва «Чатыры чвэрці» разам з кнігамі беларускіх пісьменнікаў дэманстравала і шыкоўныя прадстаўнічыя выданні пра культуру, гісторыю, мастацтва. Дарэчы, за плённую працу выдавецтва атрымала высокія ўзнагароды 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2015»: дыплом пераможцы ў намінацыі «Фотапогляд» і дыплом першай ступені ў намінацыі «Паліграф-Арт».

Супрацоўнікі выдавецтва на чале з дырэктарам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Ліліянай Анцух, як і на ранейшых выстаўках-кірмашах, актыўна прэзентавалі свае новыя выданні — гэтым разам кнігі серый «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» і «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», да 70-годдзя Вялікай Перамогі — «Дзеці вайны», а таксама «Мінскія маладыя галасы» і «Несур'ёзна пра сур'ёзнае».

## СЕРЫІ ПЕРШАЯ І ДРУГАЯ.

### «ПІСЬМЕННІКІ»

Ужо некалькі гадоў выдавецтва падтрымлівае самую прэстыжную серыю кніг «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», адбор у якую здзяйсняецца разам са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом. Гэтым разам на выстаўцы прэзентацыю «Бібліятэкі СПБ» аб'ядналі з прэзентацыяй новых кніг з серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», якая стваралася ў цесным супрацоўніцтве са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Міхасём Пазняковым.

Са сваёй творчасцю наведвальнікаў пазнаёміў госць выстаўкі — член Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэй Антонаў, а таксама беларускія пісьменнікі Уладзімір Дарашэвіч, Дзмітрый Пятровіч, Андрэй Скарынкін, Пётр Радзечка ды іншыя.

## СЕРЫЯ ТРЭЦЯЯ.

### «ДЗЕЦІ ВАЙНЫ»

Паводле пісьменніка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Навумовіча, у гэтай серыі людзі, апаленыя ліхалеццем, успамінаюць убачанае на свае вочы ці пачутае калісьці ад бацькоў. Вайна сталася не толькі гістарычнай трагедыяй, але і геннай памяццю народа.

Ліліяна Анцух зазначыла: назва серыі філасофская, бо і ў тых, хто сам не бачыў вайны, ужо са школы праз душу і сэрца праходзіла тэма, што потым дапамагала нараджэнню мастацкіх твораў. Серыя, за якую выдавецтва атрымала дыплом Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, была распачата ў год 65-годдзя Вялікай Перамогі, а да 70-годдзя плануецца выпусціць не менш як 30 кніг.

Гісторыі напісання сваіх твораў распавялі паэты Мікола Чарняўскі («На плошчы памяці маёй»), Казімір Камейша («Курганны звон») і Ніна Галіноўская («Няма даравання вайне»). Песнямі аздобіла імпрэзу пісьменніца, аўтар адной з кніг серыі Тацццяна Дашкевіч.

## СЕРЫЯ ЧАЦВЁРТАЯ.

### «МІНСКІЯ МАЛАДЫЯ ГАЛАСЫ»

Прэзентацыя гэтай кніжнай серыі адкрылася міні-канцэртам камернага хору «Класіка».

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў падкрэсліў: з'яўленне серыі, мэта якой — прадставіць найбольш таленавітых маладых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў нашай краіны, ініцыявана МГА СПБ. Пачынаючы з 2011 г. у яе межах выйшла 13 першых кніг маладых літаратараў, і 8 з іх ужо сталі членамі СПБ.

— Мы праводзім творчыя конкурсы, выяўляем таленты, працуем з імі. Разам з прафесійнымі пісьменнікамі яны ўдзельнічаюць у творчых вечарынах, фестывалях, — распавёў Міхась Паўлавіч.

Але і ў самім выдавецтве, як у своеасаблівай творчай лабараторыі, маладым аўтарам дапамагаюць узняць свой прафесійны ўзровень вопытныя літаратары.

Многія аўтары «Мінскіх маладых галасоў» — лаўрэаты міжнародных конкурсаў, а самая маладая з іх — Кацярына Масэ, на творчым рахунку якой ужо два паэтычныя зборнікі.

Падчас прэзентацыі свае вершы чыталі Яна Явіч (яе зборнік стаў першай кнігай серыі ў 2011 годзе) і аўтар новай кнігі «Адчуць гармонію душы» (2015) Тацццяна Мацюхіна.

## СЕРЫЯ ПЯТАЯ.

### «НЕСУР'ЁЗНА ПРА СУР'ЁЗНАЕ»

Прысвечаная гэтай кніжнай серыі імпрэза распачалася неардынарна: пісьменнік Дзмітрый Пятровіч выканаў пад гітару пакладзеную ім на музыку пародыю паэта Міколы Шабовіча на адзін з вершаў Міхася Башлакова. Мікола Віктаравіч — адзін з аўтараў серыі: зусім нядаўна пабачыла свет яго кніга «Прыколы ад Міколы».

Ліліяна Анцух патлумачыла: нягледзячы на тое, што гэтая серыя гумарыстычная, яе складаюць кнігі вельмі сур'ёзных і вядомых пісьменнікаў-прафесіяналаў. На ўсіх вокладках невялікіх па фармаце кніжак — карціны вядомага мастака Валянціна Губарава, які, паводле Ліліяны Фёдараўны, таксама валодае бездакорным пачуццём гумару.

А ў ліку аўтараў — Мікола Чарняўскі, Казімір Камейша, Васіль Ткачоў, Генадзь Аўласенка, Анатоль Зэкаў, Савелій Паўлаў, Мікола Шабовіч, Ірына Фамянкова, Надзея Салодкая і іншыя. Так што чытачу сумна не будзе.

**Арына КРАЙКО**

# Крама для творчых асоб

**Ужо месяц, з 26 студзеня, каля Дома прэсы, што знаходзіцца ў сталіцы па вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, працуе новы кніжны павільён ААТ «Белкніга». Менавіта тут, у маленькай, але ўтульнай кнігарні, прайшла аўтограф-сесія дзіцячай пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой. Адметна, што гэта была першая імпрэза з удзелам аўтара кніг, арганізаваная ў новай крамцы.**

Выбар месца для размяшчэння новага павільёна невыпадковы. Генеральны дырэктар ААТ «Белкніга» Аляксандр Вашкевіч распавёў:

— Мы адмыслова арыентаваліся на блізкасць да Дома прэсы. Там працуе шмат творчых людзей, і нам хацелася даць ім магчымасць знаёміцца з новымі беларускімі выданнямі, набываць іх проста па дарозе на працу ці дадому.

Паколькі крама працуе зусім нядаўна, то яе асноўны кніжны асартымент яшчэ цалкам не складзены. У прадаўца ёсць адмысловы сшытак, куды наведвальнікі могуць запісваць свае пажаданні, рабіць заказы. Аляксандр Аляксандравіч падкрэсліў, што лагістыка «Белкнігі» дазваляе вельмі хутка адгукацца на просьбы пакупнікоў. У той жа час гэта дапаможа зрабіць прапанову кнігарні больш персаналізаванай, адпаведнай попыту.

Дырэктар кніжнага павільёна Наталля Якаўлева распавяла, што ўжо цяпер у краме прадстаўлена многа кніг беларускіх аўтараў, выданняў, прысвечаных 70-годдзю Перамогі, мастацкіх твораў айчынных пісьменнікаў і краязнаўчых, гістарычных прац. Паколькі ў многіх супрацоўнікаў Дома прэсы ёсць дзеці, а ў наваколлі жыве шмат школьнікаў і студэнтаў, то крама прапануе досыць багаты выбар дзіцячай літаратуры і вучэбна-метадычных дапаможнікаў. Адметна, што менавіта кнігі для маленькіх, а таксама канцылярскія тавары ўжо сталі самымі папулярнымі і запатрабаванымі ў асартыменце крамы.



Фота Кастуся Дробава

Па меркаванні Наталлі Афанасьеўны, казаць і пра асноўную аўдыторыю магазіна, і пра дакладны план імпрэз яшчэ рана. Але дырэктар павільёна ўпэўнена, што аўтограф-сесія Кацярыны Хадасевіч-Лісавой распачала добрую завядзёнку, і новая кнігарня стане сталым месцам сустрэч аўтараў і чытачоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Спадчына

## Класіка

Збор твораў Уладзіміра Караткевіча, выпуск якога ажыццяўляе выдавецтва «Мастацкая літаратура», быў прэзентаваны падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп распачаў прэзентацыю вершам У. Караткевіча «Беларуская песня». Некалькі песень на словы Уладзіміра Сямёнавіча выканаў паэт, бард Дзмітрый Пятровіч.

Пра выданне Збору твораў Уладзіміра Караткевіча рупіцца і нястомны даследчык творчасці пісьменніка Анатоль Верабей. Падчас прэзентацыі ён распавёў, што Збор выдаецца калектывам караткевічазнаўцаў з 2012 г. Свет пабачыла ўжо 7 з 25 тамоў з уступным артыкулам А. Вераб'я, кіраўніка праекта: першы і другі тамы — паэзія (папярэдняе выданне 8-томнага Збору, 1987 — 1991, уключала ўсяго 1 том паэзіі), трэці — малыя празаічныя формы, апавяданні, напісаныя ў 1946 — 1973 гг. («У шалашы», «Блакіт і золата дня», «Вока тайфуна», «Калядная рапсодыя» ды інш.), і казкі («Лебядзіны скіт», «Вужыная каралева» і г. д.). Раздзел казак завяршае сумесны твор Уладзіміра Караткевіча і Алега Лойкі «Пра Пана Галавана». Наступныя два тамы — легенды і аповесці: «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда», «Ладдзя Роспачы», «Чазенія»…

Летась пабачыў свет шосты том. Раману «Нельга забыць» калектыў укладальнікаў Збору вярнуў гістарычную назву — «Леаніды не вернуцца да Зямлі». А ў сёмы том увайшла першая кніга рамана «Каласы пад сярпом тваім». Восьмы том складуць другая кніга рамана і аповесць «Зброя». Дзявяты — раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», дзясяты — раман «Чорны замак Альшанскі». Адзінаццаты — драматургія (6 п'ес). У дванаццаты і трынаццаты ўвойдуць публіцыстыка, эсэістыка, літаратурная крытыка. У чатырнаццаты — пераклады і аўтапераклады. Наступныя тры тамы будуць прысвечаны сцэнарыям, кінасцэнарыям, лібрэта. Васямнаццаты і дзевятнаццаты — ліставанне Уладзіміра Сямёнавіча. Дваццаты — яго малюнкі. Наступныя два — дзённікі, запісныя кніжкі. У заключных тамах Збору будуць прадстаўлены дапаўненні да папярэдніх, а таксама новыя знаходкі ды летапіс жыцця і творчасці У. Караткевіча. Плануецца выдаць і два кампакт-дыскі, адзін з якіх змесціць вершы і песні ў выкананні Уладзіміра Караткевіча, а на другім будуць занатаваны яго публічныя выступленні і здымкі ў фільме «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Адзін з укладальнікаў гэтага шматтомнага выдання, Генадзь Кажамякін, які працаваў над 6-м томам Збору, распавёў: кніга павінна друкавацца па апошнім прыжыццёвым выданні, але толькі ў тым выпадку, калі яна выдадзена так, як таго хацеў аўтар. У 1982-м, пасля смерці Леаніда Брэжнева, аўтарская назва рамана, напісанага яшчэ ў 1960 — 1962 гг., была ўспрынята як алегорыя на яго імя. На самай справе Леаніды — гэта метэарытная плынь, якая перыядычна пралятае над Зямлёй і названая так па імені сузор'я Льва. І хоць У. Караткевіч пісаў, што ўсе імёны і падзеі ў рамане выдуманыя, твор усё ж аўтабіяграфічны, пачынаючы з вобраза галоўнага героя, Андрэя Грынкевіча, у якім паказаны сам аўтар. Ёсць прататыпы і ў іншых герояў рамана.

Паводле Анатоля Вераб'я, гэты Збор твораў — выданне масавага і адначасова акадэмічнага характару. У ім пададзены кананічныя тэксты твораў, адрозныя ад тых, што былі апублікаваны супраць волі У. Караткевіча. Адметна, што ўкладальнікі стараюцца захаваць у Зборы непаўторную, арыгінальную, жывую мову твораў класіка. Выданне ўсіх 25 тамоў плануецца завяршыць да 2020-га, калі з дня нараджэння пісьменніка споўніцца 90 гадоў.

**Яна ЯВІЧ**

*Прэзентацыя*

# Падарожжы з паштальёнам

**У пачатку студзеня споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння вядомага чэшскага пісьменніка Карэла Чапэка. Акурат да гэтай знакавай даты ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет беларускі пераклад яго «Паштарскай казкі». На беларускую мову казку пераствaрыў Сяргей Смятрычэнка, выданне праілюстравала маладая мастачка Крысціна Пержукова. Кніга была прадстаўленая падчас ужо традыцыйнай «Літаратурнай МаслА(Е)ніцы» ў Доме Дружбы, арганізаванай пісьменніцай-казачніцай Аленай Масла.**




Паводле сюжэта «Паштарскай казкі», спадар Калбаба, які, натуральна, працуе паштаром, падарожнічае па краіне ў пошуках загадкавай спадарыні Марынькі. Атрымалася так, што яе каханы, шафёр Франак, адпраўляючы ліст, забыўся напісаць адрас. Гномы, якія жывуць на пошце і ўмеюць чароўным чынам зазіраць у лісты, не распячатваючы іх, дапамаглі Калбабу даведацца змест паслання, але адрасу так і не дазналіся. Ліст быў проста жыццёва важны, таму, каб знайсці Марыську, стараннаму паштару давялося цэлы год хадзіць па краіне і шукаць адрасата.

Думаецца, наведвальнікі «Літаратурнай МаслА(Е)ніцы» таксама ў некаторым сэнсе ператварыліся ў паштароў-падарожнікаў: з дапамогай фотаздымкаў мастачкі Аксаны Аракчэевай пашпацыравалі па чароўнай Празе і іншых гарадах Чэхіі, з расповеду паэта і перакладчыка Сяргея Панізніка пазнаёміліся з выдатным беларускім спеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім, які жыў у чэшскай сталіцы, а з прамовы Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь Мілана Экерта шмат даведаліся пра жыццё і творчасць аўтара «Паштарскай казкі» Карэла Чапэка. Спадар пасол падкрэсліў:

— Некалькі гадоў таму, калі ў краіне праводзілася даследаванне «Самы лепшы чэх», пісьменнік Карэл Чапэк сярод усіх гістарычных асоб і дзеячаў культуры заняў дзявятае месца. Значыць, у Чэхіі яго паважаюць, а разам з Яраславам Гашакам яны, бадай, самыя вядомыя чэшскія пісьменнікі. Чапэк — аўтар знакамітых раманаў, п'ес, казак. А яшчэ лічыцца, што Чапэк разам з братам з'яўляюцца стваральнікамі слова «робат».

Спадар Калбаба часцей за ўсё разносіць рахункі, дзелавыя паведамленні і вельмі радуецца, калі ў сумку да яго трапляе ліст да сяброў ці сваякоў. А вы даўно пісалі папяровыя лісты? Акцёр, аўтар вядомай краязнаўчай праграмы «Падарожжы дылетанта» Юрый Жыгамонт падчас вечарыны прызнаўся, што не любіць карыстацца электроннай поштай, таму заўсёды пакідае свой хатні адрас і з задавальненнем чытае лісты з расповедамі пра мінуўшчыну мястэчак і вёсак Беларусі, якія прыходзяць з усіх куткоў краіны. Паспрабаваць напісаць папяровы ліст змогуць і наведвальнікі прэзентацыі. У падарунак ад мастачкі Крысціны Пержуковай усе атрымалі адмыслова раздрукаваныя ілюстрацыі да кнігі, якія стануць выдатнымі аркушамі для лістоў сябрам ці сваякам.

«Паштарская казка» Карэла Чапэка вучыць дабрыні і спагадзе, уменню чакаць цудаў, атрымліваць задавальненне нават ад самай звычайнай штодзённай працы. Адметна, што цуд адбыўся і падчас вечарыны таксама. Мінскі Міжнародны клуб жонак паслоў, дыпламатаў і замежных прадстаўнікоў перадаў кнігі ў бібліятэку аднаго з дзіцячых дамоў, а таксама выдзеліў сродкі на рамонт даху. Віцэ-прэзідэнт па культуры Ануш Бабаян, а таксама сяброўкі Клуба з Грузіі, Таджыкістана, прадстаўніца Талышскай культуры ўпэўненыя: добрыя ўчынкі здзяйсняюць не толькі героі казак. І ў нашым жыцці ёсць месца цудам.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Меркаванне

# Развітальны позірк

**Кніжная выстаўка прайшла, можна падводзіць вынікі: што ўбачыў наведвальнік на кніжным свяце 2015 года? З якімі ўражаннямі стане ён чакаць новую выстаўку, замежных гасцей, выдавецкія навінкі?**



*Немцы ведаюць, як зрабіць класіку прывабнай!*

## ЧАСОВАЯ ПРАПІСКА

«Кніжны свет» на Купалы, 27, які любяць і рэгулярна наведваюць многія мінчукі, на час выстаўкі быццам бы падвоіўся, і другая палова яго атрымала часовую прапіску на Пераможцаў, 14. Увесь ніжні паверх выстаўкі (разам з гардэробам, які не вельмі прыдатна размясціўся якраз насупраць кніжнага шэрагу) занялі даўно знаёмыя нам выдавецтвы «ЭКСМО», «Харвест», «Элсид» і іншыя, збольшага расійскія. Адпаведна і кнігі былі добра знаёмыя: стаўшая ўжо роднай кожнаму кніжніку серыя «Азбука-Классика», процьма спецыяльнай літаратуры, пераважна «жаночай» (вышыўкі, вязанне, страўня, выхаванне, папулярная псіхалогія, біяграфіі славутасцей, мода), сучасная англамоўная проза ў перакладах на рускую, несмяротная класіка ў дарагіх выданнях. Асобны свет стварылі дзіцячыя кнігі і «спадарожныя тавары» — цацкі, галаваломкі, мазаікі, маляванкі. Аўтары самыя розныя: ад Астрыд Ліндгрэн і Экзюперы да казак народаў свету. Магчыма, наступным разам варта падумаць пра асобную «дзіцячую» кніжную выстаўку ў межах «дарослай» — поспех гарантаваны.

Сярод россыпу рускамоўных кніг вылучаўся стэнд «Тэхналогіі», дзе прапаноўваліся і кнігі іншых выдавецтваў, арыентаваных на сучасную беларускую літаратуру. Найбольшым попытам карысталіся гістарычныя даследаванні і альбом паштовак калекцыянера У. Ліхадзедава «Вайна 1914 — 1918 гадоў праз фотааб'ектыў нямецкага салдата», а таксама — серыя кніг «Нашы славутыя землякі», якая даўно зарэкамендавала сябе найлепшым чынам, асабліва ў асяродку студэнтаў: кнігі надзвычай змястоўныя і танныя. З замежнікаў кнігамі «Тэхналогіі» найбольш цікавіліся расіяне.

## КІТАЙ У МІНІЯЦЮРЫ

Ганаровы госць выстаўкі — Кітайская Народная Рэспубліка — стварыў на Пераможцаў, 14 маленькую краіну, ступіўшы за парог якой губляеш сувязь з Беларуссю. Вынік працы Кітая цяжка назваць проста «стэндам» — гэта спалучэнне музея кітайскай пісьменства, канферэнц-залы і вялікай бібліятэкі з літаратурай на самы розны густ (вядома, калі валодаеш кітайскай мовай), выпушчанай дваццаццю выдавецтвамі. Асабліву цікаўнасць выклікалі пераклады беларускіх пісьменнікаў: Шамякіна, Быкава, Брыля, Коласа, Мележа, Алексіевіч… Былі нават паэмы Купалы. Усё гэта міжволі наводзіць на думку пра сённяшнія перакладчыцкія стасункі паміж Беларуссю і Кітаем, якія, мяркуючы па ўсім, мусяць развівацца актыўна.

## ДАВАЙЦЕ ПАЗНАЁМІМСЯ

На кніжнай выстаўцы можна было пазнаёміцца не толькі з сучасным літаратурным працэсам той ці іншай краіны, але з самой краінай. Такая арыентаванасць цалкам зразумелая: выдавецтвы заўжды хочуць паказаць найлепшыя ўзоры сваёй працы, а пад такія часцей за ўсё патрапляе класіка і багата ілюстраваныя энцыклапеды ды гістарычна-біяграфічная літаратура — словам, усё, што прайшло выпрабаванне часам. Так, на стэндзе Венесуэлы пачэснае месца займалі біяграфіі Чавеса і Балівара. Вялікабрытанія зрабіла стаўку на папулярнасць: выставіла на вітрыну «Хобіта» Дж. Р. Р. Толкіна, яркія і дарагія даведачныя выданні і да ўсяго запрашала зрабіць фота на памяць з зоркай апошніх гадоў — асучасненым Шэрлакам.

Беларусь прадстаўляў шэраг дзяржаўных выдавецтваў і гандлёвая кніжная сетка «Белкніга». Кнігі працавалі на прэзентаванне краіны: фотаальбомы, выданні пра славутыя мясціны Беларусі. Асобнае месца занялі праекты да 70-годдзя Перамогі. Дарэчы, апошніх было вельмі шмат: на гэтай даце рабіўся надзвычай яркі акцэнт.

ЗША выставіла навуковую, спецыялізаваную літаратуру і рознага кшталту энцыклапеды. Такім жа шляхам пайшла Украіна. Польшча даведачна-асветніцкую літаратуру разбавіла дзіцячай. Асабліва ўсцешыла беларускае выданне



*Узоры кнігавыдавецкай справы Расіі.*

Віславы Шымборскай «Канец і пачатак» на польскім стэндзе.

Не абмяжоўваліся аднымі кнігамі і ўсходнія краіны. Напрыклад, Іран выставіў посуд, шкатулкі, паштоўкі і рэпрадукцыі карцін, быў нават бронзавы бюст Аль Біруні, персідскага навукоўца і мысляра.

Расія была цэнтральным экспанентам на выстаўцы, аднак нельга сказаць, што яе стэнды моцна розніліся ад стэндаў іншых краін: тая ж ваенная тэматыка, сучасная палітыка, біяграфіі. Асаблівасцю можна назваць хіба вялікую колькасць літаратуры па філасофіі і рэлігіі. Вылучаліся сярод іншых — зноў жа — энцыклапеды, прысвечаныя рускім класікам (Чэхаў, Цютчаў, Талстой, Дастаеўскі) у фармаце «падарункавых выданняў», энцыклапеды выдавецтва «Просвещение» і калекцыйныя выданні «ВИТА Нова» — класіка сусветнай літаратуры (у Мінску знайсці гэтыя кнігі можна і ў невыставачны час). Як адзначае расійскі бок, асаблівае месца на выстаўцы занялі выданні, падрыхтаваныя сумесна з беларускімі выдавецтвамі («Энциклопедия Победы. Беларусь-Москва», «Новая земля» Якуба Коласа, кніга-альбом «Живая вера. Ветка» ды інш.).

Казахстан быў адметны вялікай колькасцю дзіцячай літаратуры (збольшага казкі заходнееўрапейскіх аўтараў у перакладах на рускую мову) і перавагай рускай мовы, у той час як Арменія, прыкладам, прэзентавала збольшага кнігі на сваёй нацыянальнай мове.

## ПОСПЕХ = УПАРАДКАВАНАСЦЬ

Узорным можна назваць стэнд Германіі, дзе любоў да парадку і іерархіі выявілася ў самым прывабным святле. Белетрыстыка, дзіцячая літаратура (у тым ліку дзвюхмоўная), класіка (Гётэ, Гесэ, Брэхт, Ман, Грас ды іншыя), руская літаратура ў перакладах на нямецкую (Чэхаў, Ахматава, Бродскі і Пушкін), кнігі пра Беларусь і беларускіх пісьменнікаў на нямецкай мове,


*Іранцы прыехалі ў Мінск не адны...*

нават палічка гумару. Гістарычная і даведачная літаратура — каралевы сёлетняй выстаўкі — мелі не тое што асобныя паліцы — маленькую залу.

Спадзяюся, нашыя выдаўцы знайшлі час і наведалі стэнд Германіі: нямецкія перавыданні класікі заслугоўваюць самай высокай ацэнкі і пераймання.

Своеасаблівым працягам «нямецкай тэмы» быў стэнд Інстытута імя Гётэ ў Мінску, дзе месцілася як мастацкая літаратура (дзіцячая і класічная проза), так і вучэбная — слоўнікі, падручнікі.

На навучанне зрабіла стаўку і Італія, вучэбная літаратура на стэндзе якой была прадстаўлена, бадай, найбольш шырока на ўсёй выстаўцы. Натуральна, не абышлося без кніг пра італьянскую страўню і віны, пра мастацтва і моду, а таксама — без даведнікаў па славутых мясцінах Італіі.

Як заўсёды прывабна выглядаў стэнд Францыі, і як заўсёды французская літаратура была спалучаная з рускамоўнымі яе перакладамі: класікі (Мапасан, Рэмбо, Апалінэр і інш.) і сучасная проза, мастацкія альбомы. Дзіцячыя кнігі таксама карысталіся попытам, да таго ж на выстаўку прыехаў адзін з яе аўтараў — Жан-Філіп Ару-Віньё.

Упершыню ўзяла ўдзел у выстаўцы Бразілія, якая для дэбюту абрала выданні пра тэатр, выяўленчае мастацтва і музыку, аднак набыць іх было немагчыма — кнігі толькі выстаўляліся.



*Кітайскія пераклады твораў Івана Шамякіна.*

## ПАДРАХУНАК

Па ўсім бачна: для ўдзельнікаў кніжнай выстаўкі ў Мінску галоўнае — магчымасць адкрыць сваю краіну мага большай колькасці людзей. Толькі гэтым і можна патлумачыць такую колькасць гістарычнай (папулярна-гістарычнай, канечне) літаратуры, біяграфій, самага рознага кшталту даведнікаў і энцыклапедый. Зрэшты, мушу агаварыцца: ёсць яшчэ адзін паказальнік — чытацкі попыт. Так, ці не кожны стэнд меў у асартыменце дзіцячую літаратуру, у арыгіналах і перакладах, з ілюстрацыямі на любы густ. Чаго сапраўды не хапіла — гэта сучасных імёнаў у літаратурах розных краін свету. Калі ты, прыкладам, хочаш даведацца пра развіццё літаратурнай крытыкі ў Фінляндыі, давядзецца ехаць туды...

**Наста ГРЫШЧУК, фота аўтара**

# ...і літаратурная карта

Завяршылася XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Расійскі кніжны саюз прадставіў тут стэнд Масквы і маштабную праграму мерапрыемстваў.

Маскоўскі стэнд змяшчаў медыяэкспазіцыю выдавецкай праграмы Урада Масквы «Масква кніжная». Наведвальнікі выстаўкі азнаёміліся з сучаснай і класічнай рускай літаратурай, узялі ўдзел у прэзентацыях кніг і сустрэчах з маскоўскімі аўтарамі.

Летась пры падтрымцы Урада Масквы пабачылі свет каля 100 выданняў агульным накладам амаль у 370 тысяч. Сярод іх больш як 60 працэнтаў твораў гістарычнай, ваенна-патрыятычнай тэматыкі, мемуарнай, біяграфічнай літаратуры. Шэраг праектаў прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Ёсць некалькі прэзентацыйных альбомаў пра Маскву і Расію, 15 кніг для дзяцей і юнацтва.

Адметнае месца ў экспазіцыі занялі выданні, падрыхтаваныя сумесна з беларускімі выдавецтвамі: «Аповесць пра бацьку» Ізы Заслонавай, «Аляксандр Лукашэнка. Контуры беларускай мадэлі» Роя Мядзведзева, «Новая зямля» Якуба Коласа, кніга-альбом «Жывая вера. Ветка». Высокую якасць і ўнікальную тэматыку прадстаўленых у маскоўскай экспазіцыі кніг адзначыла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

Для айчынных аматараў рускай літаратуры была падрыхтавана цікавая праграма мерапрыемстваў. Так, маскоўскі пісьменнік, палкоўнік у адстаўцы, ветэран Узброеных Сіл Расіі Юрый Аквілянаў прадставіў сваю кнігу «Кавалерыя на службе Айчыне» і распавёў пра саракагадовы перыяд існавання савецкай кавалерыі як роду войскаў у складзе РККА — Савецкай Арміі са студзеня 1918-га і да сярэдзіны 1950-х гадоў.

Загадчык аддзела выдання навукова-папулярнай літаратуры Выдавецкага дома «Звязда» Наталія Карасёва азнаёміла наведвальнікаў выстаўкі з альбомам «Радзіма-Маці кліча. Плакаты Вялікай Айчыннай вайны: каталог калекцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны», выпушчаным у межах праграмы «Масква кніжная».

Начальнік аддзела міжнароднага і рэгіянальнага супрацоўніцтва Дэпартамента сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы горада Масквы Наталля Крэчатава і кіраўнік службы PR Расійскага кніжнага саюза Алена Паўлава прэзентавалі новы інфармацыйна-аналітычны праект «Літаратурная карта Масквы» — bookmaps.ru. Мэта праекта — даць ацэнку інфраструктуры чытання ў адміністрацыйных акругах Масквы і прыцягнуць увагу прафесійнай супольнасці да інфраструктурных праблем кніжнай галіны ў расійскай сталіцы. Наталля Крэчатава распавяла, што пры распрацоўцы праекта былі прааналізаваныя ключавыя моманты інфраструктуры для чытання: прасоўванне і інфармаванне, стан традыцыйных і анлайн-каналаў кнігараспаўсюджвання і пляцоўкі для публічнага чытання ў Маскве.

Па заканчэнні выстаўкі ўсе кнігі з нацыянальнага стэнда былі перададзеныя ў дар Міністэрству інфармацыі Беларусі для размяшчэння ў фондах нашых бібліятэк, Пасольстве Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь і Бібліятэцы рускай літаратуры імя С. У. Міхалкова ў Мінску.

**Яна ЯВІЧ**

# Сёстры Марч ды «Хрыстафор Калумб!»

З часу першай публікацыі гэтай кнігі прайшло амаль паўтара стагоддзя, але раман Луізы Олкат «Маленькія жанчыны» застаецца адным з самых папулярных твораў для дзяўчынак. Магчыма, справа ва ўдалай экранізацыі 1994 года, якая прымушае звярнуцца да кнігі: натуральна, за межамі нават двухгадзіннага кіно засталіся многія смешныя і значныя дэталі сюжэта (адметна, што фільм уключае і другую частку рамана, якая выйшла годам пазней і атрымала назву «Маленькія жонкі»). А можа — у адметнасцях творчага стылю Луізы Олкат: распавёўшы гісторыю ўласнай сям'і, яна здолела зірнуць нашмат шырэй. Уважлівы чытач заўважыць у кнізе не толькі асноўны сюжэт пра сталенне чатырох сясцёр, але і многія адметныя рысы жыцця паўночных штатаў ЗША падчас грамадзянскай вайны 1881 — 1885 гадоў, сацыяльны ўклад грамадства, сістэму адукацыі, стаўленне да рэлігіі і нават адметнасці маўлення прадстаўнікоў розных сацыяльных груп.




## ПОСПЕХ «НУДОЦЦЯ»

Сёння пісьменнікі і выдаўцы часта кажуць, што маленькія чытачы — найлепшыя крытыкі. Не паверыце, але кніга, пра якую мы вядзём гаворку, пабачыла свет менавіта дзякуючы станоўчай рэакцыі першых чытачоў — дзяўчынак. А было ўсё вось як. У маі 1868 года выдавец Томас Найлз парэкамендаваў Луізе Олкат напісаць «дзявочую» кнігу, якая магла б зацікавіць самую шырокую аўдыторыю. Пісьменніца ж у адказ прапанавала да публікацыі ўжо гатовы зборнік апавяданняў і доўга не пагаджалася пісаць іншую кнігу на заказ. Але праз некаторы час яна натхнілася гісторыяй сваёй сям'і і вырашыла распавесці пра сябе і трох сваіх сясцёр. Ужо ў чэрвені першыя 12 глаў расповеду былі гатовыя, але выдавец іх вярнуў аўтарцы, вынесшы страшны прысуд: «Нудоцце!».

Многіх пісьменнікаў такое меркаванне вопытнага выдаўца напалохала б і прымусіла б апусціць рукі. Але не Луізу Олкат! Пачатак кнігі прачыталі яе пляменніца і некалькі іншых дзяўчынак, а паколькі іх прысуд быў: «Выдатна!», то Олкат за рэкордны тэрмін дапісала раман і адправіла выдаўцу ўжо ўвесь рукапіс, зазначыўшы: «вось меркаванне маіх найлепшых крытыкаў». Хуткі поспех рамана здзівіў усіх. Кніга прыйшлася даспадобы і чытачам, і прафесійным крытыкам, якія ўжо ў назве пабачылі адсылку да Дыкенса і звярнулі ўвагу на адметнасці паказу ў кнізе сталення дзяўчынак. Ідзе вайна, і дзяўчынкі, падлеткі вымушаныя працаваць, каб падтрымаць сям'ю. Сёстры сапраўды пачуваюцца маленькімі жанчынамі: нясуць адказнасць за сваіх блізкіх.

## НА ЛЮБЫ ГУСТ

Насамрэч, «нечаканы» поспех і шырокае прызнанне «Маленькіх жанчын» патлумачыць вельмі проста. Дзяўчынкам кніга прыйшлася даспадобы, бо ў ёй ідзе гаворка пра гераінь, вельмі падобных на многіх-многіх чытачак. І перажываюць сёстры Марч тыя ж цяжкасці, што і ўсе амерыканскія дзеці і падлеткі. Так, самай старэйшай сястры Мэг 16. Яна мае вельмі спакойны характар, любіць больш марыць, чым працаваць, хоча мець багатага мужа і вялікі дом. Яна гувернантка, часта гасцяць у сваіх багацейшых сяброўках, зайздросціць іх прыгожым сукенкам і магчымасці бавіць час толькі ў гульнях і забаўках. Джо 15, і менавіта ў яе вобразе Луіза Олкат увасобіла сябе. Яна вельмі хуткая, няўклюдная, энергічная. Любіць бегаць, чытаць, пісаць апавяданні, прыдумваць п'есы для хатніх спектакляў. Вымушаная быць кампаньёнкай старой буркатлівай цёткі, чытаць ёй услых зборнікі пропаведзяў, мыць старога пудзеля і слухаць недарэчныя выказванні папугая.

Сястры Бэт (ці Бэс) 13, яна спакойная і вельмі сціплая. З-за страху камунікацыі з іншымі людзьмі дзяўчынка не ходзіць у школу, вучыцца дома. Яна дапамагае па гаспадарцы, любіць іграць на фартэпіяна, гуляць з лялькамі. Самая малодшая сястра Эмі (ёй 12) любіць маляваць, але ўвесь час змагаецца з негатыўнымі рысамі свайго характару. Яна эгаістычная, выбухная, але ў той жа час можа быць добрай, сціплай і стараннай.

Пагадзіцеся, з такім наборам галоўных гераінь вельмі лёгка трапіць «у кропку» і зацікавіць чытача. А калі да іх дадаць яшчэ сірату Лоры — сябра і суседа дзяўчынак, яго строгага і справядлівага дзядулю містара Лоўрэнса, маму сясцёр, місіс Марч — проста ўвасабленне мудрасці і пурытанскай маралі, містара Марча, які змагаецца на вайне супраць «мяцежнікаў з паўднёвых штатаў», то поспех і прызнанне кнігі зусім не падаюцца выпадковымі.

## ГУЛЬНІ, ЧЫТАННЕ, РЭЛІГІЯ

Я ўжо адзначала, што за гісторыямі з жыцця сям'і Марч хаваецца шмат інфармацыі пра амерыканскае грамадства ў XIX ст. Цікавыя рысы можна заўважыць у гульнях дзяўчынак, кнігах, якімі яны захапляюцца, характарыстыках, якія даюць уласным і чужым учынкам. Звярну ўвагу толькі на некаторыя адметнасці.

Так, рэлігійнасць настолькі глыбока ўвайшла ў светапогляд сясцёр, што запаўняе не толькі святы, моманты знаёмства з Евангеллем (падарунак ад маці на Раство), але і іх гульні. Самая любімая кніга для чытання і інсцэніроўкі — рэлігійна-дыдактычная паэма англійскага прапаведніка Джона Баньяна «Падарожжа пілігрыма». Дзяўчынкі часта закідваюць за спіну цяжкія сумкі і ўяўляюць сябе пілігрымамі-хрысціянамі, якія, як і галоўны герой згаданай паэмы, пераадольваюць цяжкія выпрабаванні на шляху да Нябеснага Горада. Трэба дастаць нешта са склепу, папрацаваць у садзе ці нават проста прагулядца на ўзгорак каля лесу — усе ператвараюцца ў пілігрымаў-пакутнікаў, і праца падаецца не такой марнай.

Адметна, што героі «Маленькіх жанчын» ведаюць і іншыя кнігі. Луіза Олкат адзначае багатыя бібліятэкі цёткі Марч і старога містара Лоўрэнса, звяртае пільную ўвагу чытачоў на творы, якія чытаюць сёстры Марч і іх сябры. Дзяўчынкі маюць свой «Піквікскі клуб», як у Дыкенса, але асабліва цікава густы герояў выяўляюцца падчас адмысловай гульні ў «лухту», калі кожны з удзельнікаў проста на хаду мусіць прыдумаць свой працяг гісторыі. Так, рыцарскі раман у працэсе гульні набывае рысы готыкі, паступова ператвараецца ў расповед пра англійскіх маракоў і партугальскіх піратаў, потым становіцца французскім любоўным раманам, а заканчваецца як казка-небыліца пра русалак і чароўныя качаны капусты.

Можна адзначыць яшчэ шмат характэрных рысаў амерыканскага грамадства, што выяўляюцца ў кнізе: стаўленне да вайны і беднякоў, стасункі пратэстантаў і католікаў, розныя погляды на адукацыю, паводзіны дзяўчынак, сямейнае шчасце і выбар мужа. Але чытайце — і самі ўсё пабачыце.

***P. S.*** *Чытач, які ўважліва знаёміўся з гэтым тэкстам, можа здзівіцца: пры чым тут Хрыстафор Калумб? Прызнаюся, і для мяне гэта было адкрыццём. Справа ў тым, што «Хрыстафор Калумб!» у рамане ўжываецца ў якасці выклічніка. Аказваецца, што менавіта гэтымі словамі ў XIX ст. у ЗША выказвалі здзіўленне, рэагавалі на нечаканасці. Згадваць імя першаадкрывальніка Амерыкі вельмі любіць эмацыянальная Джо, але паколькі выхаваная лэдзі не ўжывае «моцныя слоўцы», то і дзяўчынка стараецца не ўспамінаць пра Калумба.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**




# Урокі ваеннай гісторыі

**Маскоўскае выдавецтва «АСТ» пры падтрымцы ТАА «Харвест» традыцыйна друкуе вялікую колькасць кніг, прысвечаных розным аспектам вайсковай гісторыі.**

Да сапраўды выбітных прац належыць кніга вядомага англійскага гісторыка і тэарэтыка вайсковай справы сэра Бэзіла Лідэл Гарта «Сцыпіён Афрыканскі».

Выданне змяшчае падрабязнае жыццеапісанне знакамітага старажытнарымскага палкаводца Публія Карнэлія Сцыпіёна, які за свае перамогі быў названы Афрыканскім. Кніга напісаная жывой сакавітай мовай і чытаецца з сапраўдным захапленнем. Падзеі старажытнарымскай гісторыі апісваюцца так, нібыта аўтар быў іх непасрэдным удзельнікам. Адчуваецца, што англійскі гісторык ставіцца да Сцыпіёна са шчырай цеплынёй, захапляецца вайсковым талентам ды перамогамі палкаводца і адначасова апраўдвае ўсе яго памылкі. Натуральна, што для навуковага гістарычнага даследавання такі падыход не можа быць прызнаны дарэчным. Але для аўтара навукова-папулярнай працы ён дастаткова абгрунтаваны, бо дазваляе стварыць у чытача станоўчае стаўленне да аб'екта жыццеапісання. І ў сэра Бэзіла Лідэл Гарта гэта цалкам атрымалася.




Аднак захапляльнае апісанне жорсткага і ўпартага змагання Рыма і аднаго з яго найвыбітнейшых палкаводцаў Публія Карнэлія Сцыпіёна за ўсталяванне ўлады над Міжземнаморскім рэгіёнам не самае цікавае ў кнізе. Распавядаючы пра ваенныя дзеянні падчас Другой Пунічнай і Сірыйскай войнаў, аўтар надзвычай шырока выкарыстоўвае аналогіі з вайсковай і палітычнай гісторыі антычнасці, Сярэднявечча, Новага і Найноўшага часу. Варта ўзгадаць, што кніга была ўпершыню выдадзена ў 1926 годзе, калі памяць пра жахі Першай сусветнай была яшчэ жывой, асабліва ў яе актыўнага ўдзельніка — баявога афіцэра Бэзіла Лідэл Гарта. Цікава, што самыя нечаканыя паралелі паміж дзеяннямі Сцыпіёна і камандуючых розных эпох выглядаюць надзвычай пераканаўчымі. Аўтар выкарыстоўвае гэты метад у першую чаргу для таго, каб упэўніць чытача, што Сцыпіён адзін з найвыбітнейшых, калі не самы выбітны, палкаводцаў у сусветнай гісторыі.

Разам з тым праз 90 гадоў пасля першага выдання кніга сэра Бэзіла Лідэл Гарта сама па сабе стала гістарычнай крыніцай. А таму яго развагі пра вайсковую гісторыю, стратэгіі і тактыку і шматлікія алюзіі на падзеі Першай сусветнай вайны падаюцца, напэўна, найбольш каштоўнымі і цікавымі старонкамі. Шмат якія думкі і прадказанні англійскага вайсковага гісторыка спраўдзіліся вельмі хутка — падчас Другой сусветнай вайны. Цікава, што на яго перадавыя ваенна-тэарэтычныя погляды звярнулі ўвагу не суайчыннікі-брытанцы, а іх праціўнікі — немцы.

Адна з думак сэра Бэзіла Лідэл Гарта застаецца актуальнай і сёння. Гэта меркаванне, што кожная вайна, нават самая паспяховая — вынік палітычнага правалу.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

Гістарыёграф



**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Лёсы магнацкіх гарадоў

Напрыканцы 2014 года Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» апублікаваў матэрыялы канферэнцыі, якая адбывалася 23 — 24 красавіка таго ж года і была прысвечана гісторыі колішніх прыватнаўласніцкіх гарадоў Беларусі і сумежных рэгіёнаў (Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага: лёс праз стагоддзі. Мінск: Выдавец А. М. Янушкевіч, 2014. — 236 с.).

У зборнік увайшлі артыкулы навукоўцаў, музейных супрацоўнікаў і спецыялістаў па ахове гісторыка-культурнай спадчыны з Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Абсалютная большасць матэрыялаў прысвечана Нясвіжу і іншым гарадам, якімі калісьці валодалі Радзівілы. Гэта цалкам натуральна, улічваючы месца правядзення канферэнцыі, але, разам з тым, зборнік больш лагічна было б назваць «Радзівілаўскія гарады Вялікага Княства Літоўскага».

Артыкулы, уключаныя ў кнігу, прысвечаны самым розным аспектам гісторыі прыватнаўласніцкіх гарадоў Вялікага Княства. Сярод іншых сваёй грунтоўнасцю, глыбінёй прапрацоўкі і актуальнасцю для айчыннага чытача вылучаюцца тэксты Аўдронэ Вішнёўскенэ, прысвечаныя родавай усыпальні Радзівілаў у Нясвіжскім касцёле Божага Цела, Антона Астаповіча, у якім грунтоўна разглядаюцца метадычныя пытанні, праблемы і перспектывы захавання і аднаўлення гістарычнай планіровачнай структуры беларускіх гарадоў эпохі позняга Сярэднявечча і Новага часу, Германа Брэгера пра радзівілаўскія мястэчкі Ашмянскага павета. Варта таксама адзначыць артыкул Андрэя Блінца, у якім даследуецца арганізацыя гарадской варты і ўдзел мяшчан у падтрыманні абараназдольнасці Нясвіжа ў XVI — XVIII стагоддзях. Сапраўднае ўпрыгажэнне зборніка — артыкул Міколы Волкава, прысвечаны аналізу гісторыі стварэння і развіццю абарончых збудаванняў Нясвіжа.

Разам з тым асобныя апублікаваныя матэрыялы практычна не раскрываюць асноўную тэматыку зборніка. Да іх ліку можна аднесці матэрыялы Вольгі Волкавай «Лазарэт чырвонага крыжа князёў Радзівілаў у Нясвіжскім замку ў гады Першай сусветнай вайны», Віталя Быля «Абуджэнне заштатнага горада: зараджэнне нацыянальных рухаў у Нясвіжы ў канцы XIX — пачатку XX ст.», Сяргея Жумара «Кінадакументы па гісторыі Нясвіжа (па матэрыялах БДАКФФД)». Апроч таго, зусім кволай выглядае публікацыя Ганны Чухманавай «Музеефікацыя архітэктурных помнікаў Заслаўя».

Тым не менш зборнік «Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага: лёс праз стагоддзі» можна назваць высакаякасным навуковым выданнем, вартым самай пільнай увагі спецыялістаў па гісторыі, урбаністыцы і архітэктуры эпохі позняга Сярэднявечча і Новага часу.

Адметна, што дадзенае выданне ўжо не першы цікавы выдавецкі праект Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка «Нясвіж». Хочацца спадзявацца, што ў самай бліжэйшай перспектыве Нясвіжскі музей зойме сваё месца сярод вядучых навуковых устаноў краіны.

Маладзічок

# Дзе знаходзіцца Афрыка?

Пашыраецца прастора беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. На старонках айчыннай часопіснай перыёдыкі з'яўляюцца новыя артыкулы пра стасункі дзвюх славянскіх літаратур, новыя пераклады ўкраінскай паэзіі і прозы. Галіна Тарасюк, Уладзімір Даніленка, Яраслава Паўлычка, Анатоль Дзімараў, Васіль Парцяк — іх творы ў апошні час былі апублікаваны ў часопісе «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва».

А не так даўно што ў Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга казак украінскага празаіка Міхайлы Слабашпіцкага «Ці далёка да Афрыкі?». Пад адной вокладкай сабраны сем казак: «Ці далёка да Афрыкі?», «Нашчадак тарпанаў», «Слаўка і Жако», «Папугай з асенняй галінкі», «Дрэва на тратуары», «Цінь-Цвірынь», «Цінь-Цвірынь у заапарку» (пераклаў іх на беларускую мову Алесь Карлюкевіч).

Украінскі пісьменнік пранікае ў дзіцячую псіхалогію, апісвае стасункі дзяцей з навакольным светам. Да прыкладу, казка «Дрэва на тратуары» — пра ўсе выдаткі гарадской экалогіі, пра абыякавасць людзей, якія часам зусім не заўважаюць жыццё навокал. Магчыма, якраз гэты твор нагадае, наколькі мы залежныя ад прыроды, адказныя за яе.

«Нашчадак тарпанаў» — шчымлівы расповед пра любоў да свету жывёл. «Ці далёка да Афрыкі?» — урок любові да роднай зямлі і павагі да шырокага свету.

Дарэчы, нарадзіўся ўкраінскі творца ў 1946 годзе. Закончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў рэдактарам




аддзела крытыкі газеты «Літаратурная Украіна». З 1995 года — выканаўчы дырэктар Лігі ўкраінскіх мецэнатаў, дырэктар выдавецтва «Яраславаў Вал». З 2006 года — сакратар Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны. Аўтар многіх публіцыстычных, дакументальных, гісторыка-літаратурных твораў, аповесцей і апавяданняў, адрасаваных дзецям.

**Наталля АСМОЛА**

# Знаёмімся з небяспекай

***Дзе хаваецца небяспека, альбо Слушныя гісторыі ад бабы Валі: аповеды / Валянціна Дынько; мастак Уладзімір Пашчасцеў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 263 с.***

Бабуля Валя ўсё жыццё прысвяціла выхаванню і навучанню дзяцей. Падсумаваннем карысных парад, раздадзеных вучням, стала пяцьдзясят адна павучальная гісторыя аб правілах бяспекі на дарозе, у побыце, у дачыненнях з тэхнікай, на прыродзе. Выхаваўчыя аповеды з навукова-папулярнымі пасажамі хутчэй прызначаны для чытання бацькамі дзецям: адна гісторыя пасля вячэры штодня, праз тры месяцы курс паўтарыць. «Слушныя гісторыі ад бабы Валі» — выдатная знаходка для яе калег-педагогаў, бо абмеркаванне твораў будзе карысным і цікавым для вучняў.

Вельмі важна, што маленькі чытач трапіць у знаёмы яму сучасны свет, дзе не толькі спяваюць народную песню «Цячэ вада ў ярок...», але і чытаюць «Гары Потэра», глядзяць мультыкі пра чарапашак Ніндзя і цэлы вечар сядзяць «Вконтакте». Баба Валя — вельмі сучасны чалавек, яна можа ўспрымацца як маці альбо старэйшая сястра. Мова твораў таксама сучасная, і добра, што рэдактар даў магчымасць апавядальніцы ўжываць тыя словы, якія ёй найбольш даспадобы («лазенка», «роварыст», «ізастужка», «салатка»). Некаторыя выразы кшталту «улучыць / вылучыць святло» могуць выклікаць непаразуменне і разам з тым вучаць вольнаму, творчаму абыходжанню з беларускай мовай.

Нязвыклая мова, небяспечныя сітуацыі і рызыкоўныя ўчынкі герояў робяць сапраўды запамінальнымі важныя правілы выжывання ў сучасным свеце. Небяспечна засынаць у ваннай, не варта стаяць ля краю дарогі, нельга набліжацца да абарванага дрота ЛЭП бліжэй за 5 — 8 метраў. Завезены з Каўказа баршчэўнік імкліва разрастаецца па Беларусі, побач з дачнымі сцежкамі ходзяць кабеты з «букетамі» чарнічніку. «А на тых корчыках маглі б яшчэ 20 — 25 гадоў штолета з'яўляцца ягады!»

Аповеды збольшага напісаны па адной схеме: кароткі ўступ — завязка — небяспечнае здарэнне — падрабязнае правіла — выснова-зварот да чытача. Безумоўна, тэма кнігі прадвызначыла яе павучальнасць, але незвычайныя жыццёвыя сітуацыі павінны заінтрыгаваць і натхніць на ўважлівае чытанне нават самых нудных правілаў. Імёнаў у кнізе шмат, героі аповедаў амаль не паўтараюцца. Праўда, іх колькасць можна было б абмежаваць і невялікай лічбай: няблага сустракацца з ужо знаёмымі персанажамі і кожны раз высвятляць пра іх нешта новае.

На малюнках — шмат людзей у гумовых ботах, бясформенных кедах, шапках-аблавушках. Ілюстрацыі, канечне, маглі б больш пасаваць абсалютна сучасным тэкстам Валянціны Дынько, але добра прынамсі тое, што на іх адлюстраваны самыя яскравыя эпізоды твораў. Хлопчык дае нырца і б'ецца галавой аб старую калоду, разгубленая Поля стаіць побач са спаленым рондалем... Варта спадзявацца, што «Слушныя гісторыі ад бабы Валі» застануцца ў памяці многіх дзетак і дапамогуць не напаткаць жыццёвых непрыемнасцей!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# У сэрцы – дабрыня

Пісьменніка і драматурга Васіля Ткачова як аўтара твораў для дзяцей прадстаўляць не трэба: на працягу дзесяцігоддзяў ён плённа шчыруе і на гэтай ніве. Васілю Юр'евічу прысвоена прэстыжная ўзнагарода ў галіне дзіцячай літаратуры — прэмія імя Васіля Віткі!

І вось Васіль Ткачоў зноў парадаваў сваіх юных чытачоў: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла ў свет новая кніга яго апавяданняў з назвай «Высокі страх». Героі твораў пісьменніка самі робяць дабро і вучаць іншых рабіць яго. Праяўляюць спагаду, міласэрнасць, павагу да старэйшых, клопат пра братоў нашых меншых — птушак і жывёл, прараслінны свет радзімы.

Да прыкладу, гераіня апавядання «Цёплыя абноўкі» маленькая Алёнка клапоціцца, каб на прагулцы па снезе не памарозіў лапкі яе сабачка Джэсі. Таму разам з бабуляй шые яму цёплыя абноўкі. А вось малая Любка ўзімку не забываецца пакарміць голуба Цішку, ставіць на падаконнік талерку з хлебнай крошкай, семкамі і кубачак з вадою (апавяданне «Любка-галубка»). Як падкрэслівае аўтар вуснамі бабулі Валі, галоўнае не ў тым, што дзяўчынка накарміла свайго самага прыгожага голуба, а ў тым, што Любка расце добрай дзяўчынкай. І трэба аддаць належнае пісьменніку: ён добра ведае дзіцячую псіхалогію, народную педагогіку. Побач з дзятвой у яго творах — прадстаўнікі старэйшага пакалення: маці, бацька, бабуля, дзядуля. Яны не толькі словамі, але і ўласнымі паводзінамі выхоўваюць дзяцей, прышчапляюць парасткі дабрыні і любові да людзей, прыроды, Радзімы. І своечасова падтрымліваюць хлапчукоў і дзяўчынак у іх імкненні рабіць добрыя, карысныя справы, быць выхаванымі, клапатлівымі (апавяданні «Джэнтльмен», «Выратавальніцы», «Крыўда» і іншыя).

Усяго ў новай кнізе Васіля Ткачова змешчана сямнаццаць апавяданняў, якія цудоўна афарміла мастачка Т. Кубліцкая.




**Міхась СЛІВА**

*Да 70-годдзя Вялікай Перамогі*

# Шлях на пакаранне

**У летапісе катастроф Другой сусветнай вайны няшмат знойдзецца твораў выяўленчага мастацтва, прысвечаных Трасцянецкаму лагеру смерці.**



*Абрам Кроль «Беларускі прастор». 1967 г.*

А па колькасці знішчаных ён на чацвёртым месцы пасля Асвенцыма, Майданака і Траблінкі. Пейзаж «Беларускі прастор», створаны мастаком Абрамам Кролем у 1967 годзе, можна ў поўнай меры прызнаць гісторыка-краязнаўчым па сваёй ідэйнай трактоўцы, характэрнай для пасляваеннага перыяду. Сёння гэтаму твору прыйшоў час даць яшчэ адну назву: «Шлях на пакаранне». Паказальны манументальна-сімвалічны характар кампазіцыі: пейзаж з нізкім даляглядам, аснова яго – вертыкалі электраліній далёкай чыгуначнай станцыі. Менавіта па гэтай чыгунцы, Асіповічы — Мінск, прывозілі палонных з Еўропы.

Трагічны сведка тых падзей і малюнак Мікалая Дучыца «Трасцянец» (1944). Творца паказаў яшчэ не зарослыя ямы і равы, перадаў характэрныя прыкметы земляных могілак.

Вялікую каштоўнасць уяўляюць пейзажы і партрэты жыхароў Малога і Вялікага Трасцянцоў, створаныя Уладзімірам Ісачанкам. З 1986 года мастак жыве ў Трасцянцах, і за гэты час намаляваў больш як паўсотню твораў-апавяданняў, дзе паказаны сцяжыны, па якіх ішлі палонныя. Сярод іх — «Зімовы вечар. Трасцянец», «Дарога на Благаўшчыну», «Першы снег. Малы Трасцянец», «Чорная рэчка» ды іншыя. Адметныя ў творах вобразы-метафары: агромністыя валуны, лясныя мясціны з узгоркамі, паляны на ўзлесках, «жальнікі», абкладзеныя камянямі. Палотны У. Ісачанкі прадстаўляліся на выстаўцы «Трасцянец — наша памяць» у памяшканні Чырвонага Крыжа ў Шабанах. Экспазіцыю дапоўнілі творы мастакоў, неабыякавых да драматычнай мінуўшчыны. Так Л. Налівайка, вокны кватэры якой выходзяць на мясціны, дзе знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер, выканала серыю метафарычных роспісаў, адлюстраваўшы пакуты жудасных часоў. Паказалі духоўнае супрацьстаянне ахвяр і катаў В. Барабанцаў, У. Сайко, Я. Шунейка.

**Людміла ДМІТРЫЕВА**

# Гэта кіно!

**Урачыстыя акорды святкавання 90-годдзя беларускага кіно прагучалі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.**

І гэта не адзіная нагода: юбілейная дата паядняла выстаўку да 130-годдзя з дня нараджэння Юрыя Тарыча (1885 — 1967) і 115-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Корш-Сабліна (1900 — 1974).

Ідэя выстаўкі прадыктавана не толькі блізкасцю юбілейных дат. Як вядома, 17 снежня 1924 г. было створана Упраўленне па справах кіно пры Народным камісарыяце асветы БССР — «Белдзяржкіно». А праз два гады, 26 снежня 1926 г., на экраны выйшаў першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» паводле аповесці «Свінапас» Міхася Чарота. У стварэнні кінакарціны ўдзельнічалі і Ю. Тарыч (рэжысёр-пастаноўшчык, сцэнарыст), і У. Корш-Саблін (асістэнт рэжысёра, выканаўца ролі ад'ютанта).

На адкрыцці мерапрыемства дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка распавяла пра захаванне спадчыны кінарэжысёраў у фондах архіва-музея. Так, фонд У. Корш-Сабліна налічвае 52 справы за 1922 — 1975 гг. А вось асобнага фонду Ю. Тарыча тут не знайсці: большасць дакументаў захоўваецца ў фондзе кіназнаўца і журналіста Ільі Рэзніка, які даследаваў жыццё і творчасць вядомага рэжысёра. Асноўны ж корпус дакументаў Ю. Тарыча зберагаецца ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва.

Цікавымі ўспамінамі пра У. Корш-Сабліна падзяліўся кінарэжысёр Уладзімір Арлоў: «Здымкі фільма «Чырвонае лісце» (1958) праходзілі ў жніўні, калі лісце яшчэ было зялёным, а па задуме ж — чырвонае, таму яго фарбавалі ў адпаведны колер. Гэта кіно! Здымаць летам — лета, а зімой — зіму нецікава! А калі лістота натуральна пажаўцела і апала — ізноў праблема. Давялося дырэктару карціны наштампаваць з пластыку каля трох тысяч лісточкаў і пафарбаваць, а ноччу рабочыя прымацоўвалі іх да кляновых галін». У. Арлоў перадаў у БДАМЛМ альбом з фотаздымкамі ўсіх кінапроб да гэтага фільма. Пра У. Корш-Сабліна распавяла і загадчыца архіва кінастудыі «Беларусьфільм» Ніна Разумоўская. А дырэктар музея беларускага кіно Ігар Аўдзееў згадаў малавядомыя факты з біяграфіі Ю. Тарыча.

**Дар'я ЛЁСАВА**

# Недакладная навука

Клаўдыё Факінэлі — «эсэіст, журналіст, тэатральны крытык», як прадстаўляе ён сам сябе — часты госць у Беларусі: на «Тэатральны куфар» прыязджаў у 2011, 2012 і 2013 гадах, а сёлета браў удзел у мінскай кніжнай выстаўцы, дзе прэзентаваў кнігу «Да пабачэння», Ніна!». Гэта сапраўднае журналісцкае даследаванне, прысвечанае Ганне Слуцкай, дачцэ генерала Якава Слуцкага, які дапамагаў у свой час ссыльнаму Дастаеўскаму. Прыехаўшы ў Венецыю, Ганна (усіх Ганнаў тут клічуць Нінамі) сустрэла каханне, якое скончылася трагічна. Клаўдыё Факінэлі, вялікі прыхільнік Антона Чэхава, выказвае здагадку, што той быў знаёмы з гэтай гісторыяй і што яна займела адлюстраванне ў творчасці рускага класіка.

Пасля прэзентацыі спадар Клаўдыё распавёў пра сваю працу і тэатральнае жыццё Італіі.

## ЯК МАТЭМАТЫКА ВЯДЗЕ НА СЦЭНУ

«Я займаюся тэатрам, але ніколі не пісаў для яго — толькі пра. Неўзабаве выйдзе мая кніга «Драматапедыя», дзе гаворка вядзецца пра школьны тэатр, яго формы, значэнне. У Італіі гэтай тэмай займаюцца ад сілы спецыялістаў дзесяць. Аднак пачынаў я з літаратуры нон-фікшн, за якую і ўзяў першую літаратурную прэмію, калі мне было 23 гады. Апроч усяго, я матэматык і выкладаў у школе. Якраз там і пачаў працаваць са школьным тэатрам, захапіўся гэтай тэмай».

## БАХ З БАСАМІ І БЕЗ

«У сучасным італьянскім тэатры існуе кірунак класічны, традыцыйны, дзе пошук незаўважны, аднак знаходзіцца гэты тэатр на высокім узроўні. Таксама існуе новае, што і цікавіць мяне найбольш, і ў сваіх рэцэнзіях я заўжды звяртаю асаблівую ўвагу на выхадніцтвы. Мушу прызнаць, што іншым разам я не гатовы зразумець некаторыя пошукавыя формы драматургіі, не ў стане прыняць пэўныя рэчы, часам вельмі правакацыйныя, якія, тым не менш, атрымліваюць добры прыём — прынамсі, у асяродку крытыкаў.

Сёння ў Італіі назіраецца цікавая палярнасць. На адзін бок — Раманья: гарады Сантарканджэла, Чэзена, Равэна, Балонья, Вэнета. І таксама існуюць новыя тэатральныя групы — «Вавілон», «Анадор» — з Поўначы, дзе нараджаюцца новыя ідэі, прапановы, часам крыху дысгарманічныя, так — іх я ў стане зразумець.

У сваім прафесійным мінулым я быў звязаны з класічным тэатрам, і мяркую, было б някепска перагледзець вялікіх класікаў — Шэкспіра, Эсхіла, Сафокла, — надаць ім новае гучанне. Альбо — увесці ў тэатры зусім новае. Я заўжды прыводжу такі прыклад. Баха мне падабаецца слухаць у сучасных апрацоўках Жана Люсьена, з электрагітарамі і клавішнымі. Разам з тым слухаць Арнанкура, які выконвае «Брандэнбургскія канцэрты» ў аўтэнтычнай манеры, мне таксама падабаецца. Калі ты ўжо ведаеш, што такое Бах, то зможаш зразумець і сучасную апрацоўку, зможаш убачыць у ёй Баха».

## ХОРАША — ПІШУ, КЕПСКА — ПІШУ

«Адносіны тэатра і крытыка? Мушу сказаць, што калі нават я напішу пра тое, што мне не спадабалася, мяне запросяць на наступную прэм'еру. Часта клічуць на фестывалі, і калі я бачу там нешта прыгожае — для мяне! — пішу; бачу брыдкае — пішу. Як матэматык магу сказаць, што тэатральныя крытыка не з'яўляецца дакладнай навукай. На шчасце. І такім чынам ёсць прастора для супрацьлеглых поглядаў.

Звычайна я праводжу летнія месяцы як госць фестываляў у розных мясцінах Італіі: у Сантарканджэла, у вёсачцы Кастрэвілары ў Калабрыі, у Чывідале дэль Фрыулі на «Міттэльфэсце», дзе можна пабачыць вельмі многія калектывы з Харватыі, Славеніі, Балгарыі, часам — з Расіі. Летась фестываль наведала Соф'я Губайдуліна, найбуйнейшая кампазітар Расіі, — і гэта падзея (спадарыні Соф'і цяпер 83)! Праграма была пабудаваная так, што спачатку вы чулі творы Губайдулінай, затым — Баха — і зноў яе. Гэта цудоўная магчымасць убачыць, як класічнае мастацтва — тэатральнае і музычнае — развіваецца. Дзякуючы запрашэнням на такія фестывалі я абнаўляю свае погляды на тэатр».



*Фота з сайта www.portamiateatro.it*

**Наста ГРЫШЧУК**

# Якія ў ночы колеры?

Знайсці адказ на гэта пытанне можна на выстаўцы маладога фотамастака Васіля Кузьмічкіна ў гарадской бібліятэцы № 15 імя Цёткі. Большасць з 25 прадстаўленых у экспазіцыі работ — «начныя» сюжэты. І сапраўды пераконваешся: ноч не толькі цёмная, але і... шматкалярованая.

Падчас адкрыцця выстаўкі слова пра В. Кузьмічкіна сказаў дасведчаны фотамайстар Мікола Ліннік. Уласныя вершы пра ноч, у тым ліку «Колеры ночы», прачытала паэтэса Вольга Шпакевіч. Некалькі сваіх песень выканаў пад гітару пісьменнік і бард Юрась Нераток.

Васіль Кузьмічкін займаецца фатаграфіяй са школьных гадоў. Творца ў паўсядзённым бачыць незвычайнае і знаходзіць нечаканыя ракурсы. Хто б здагадаўся зняць, напрыклад, баскетбольны кошык на фоне аблокаў літаральна з зямлі (дакладней, лежачы на зямлі)? Вось вам і «Неба ў кошыку»! З капота і лабавога шкла аўтамабіля атрымалася «Крывое люстэрка». І далёка не кожны фатограф можа ўбачыць у звычайнай вясковай грунтавой дарозе «Месяцовы пейзаж». Васіль удала выкарыстоўвае магчымасці сучаснай фотатэхнікі. Вынікам таму — кампазіцыі «Погляд з Космасу», «Паміж небам і зямлёй», «Знак з неба». Фантастычнае відовішча!

**Вольга БІРУК**

*Гасцёўня*

# Мелодыя творчасці

**Сустрэча са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым адбылася ў літаратурна-музычным аб'яднанні «Акорд», якім кіруе Тамара Залеская.**

Паэтэса, член СПБ Вольга Шпакевіч прадставіла публіцы некалькі вершаў з новай кнігі госця «Наталенне Радзімай». Міхась Паўлавіч распавёў пра дзейнасць аддзялення, а таксама пра запланаваныя праекты, запрасіў сяброў «Акорда» да больш цеснага супрацоўніцтва. Распавёў выступоўца і пра літаратурныя дасягненні, пра вытокі ўласнай творчасці, непарыўную сувязь з малой радзімай.

У «Акордзе» надзвычай тонка ставяцца да мастацкага слова, музыкі, чалавечых пачуццяў. Панавала атмасфера яднання і ўзаемаразумення.

**Юрась НЕРАТОК**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

27 лютага 2015 г.

# Батлейка: Мір — Мінск

**Народны тэатр лялек «Мірская батлейка», неаднаразовы ўдзельнік рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў лялечных тэатраў, завітаў у Прэзідэнцкую бібліятэку Рэспублікі Беларусь.**



Фота Кастуся Дробава

*Наталля Кучынская з акцёрамі «Мірскай батлейкі».*

Госці — навучэнцы Мірскага дзяржаўнага мастацкага прафесійна-тэхнічнага каледжа на чале з кіраўніком калектыву, намеснікам дырэктара ўстановы па выхаваўчай рабоце Канстанцінам Петрыманам — прадставілі інтэрмедыю «Цар Ірад» паводле біблейскага сюжэта. Касцюмы і дэкарацыі для пастаноўкі юныя акцёры стварылі самі.

На імпрэзе прысутнічалі намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Наталля Кучынская, першы сакратар Маскоўскай раённай арганізацыі БРСМ Сяргей Купец, супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь Наталля Таболіч, Таццяна Бушава ды Ірына Панчанкава. У гэтым музеі розным відам батлейкі прысвечана асобная зала, дзе можна паглядзець і спектаклі з рэпертуару народных батлеечнікаў.

У аснову стварэння батлейкі, аднаго з найстаражытных відаў беларускага мастацтва, леглі народныя традыцыі ды абрады. «Мірская батлейка», якая ўяўляе сабою двух'ярусную скрыню (верхні ярус сімвалізуе неба, ніжні — зямлю), грунтуецца на традыцыях Магілёўскай батлейкі. А званне "народнага" калектыў абараніў з інтэрмедыяй «Салдат ды чорт» (1914 — 1915). Усе прадстаўленні «Мірскай батлейкі» інтэрактыўныя.



*Батлеечныя лялькі.*

Канстанцін Петрыман распавёў, што, дзякуючы стваральнікам Мірскай батлейкі Галіне Жаровінай, Ганне Выгоннай ды іншым выкладчыкам і навучэнцам каледжа, у Міры аднавіла сваю дзейнасць школа батлейкі, якая існавала тут да канца 1950-х гадоў мінулага стагоддзя, пакуль у краіне не пачаўся перыяд «ваяўнічага атэізму». А сам Канстанцін Леанардавіч, выпускнік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладчык хіміі і біялогіі, пачаў працаваць у каледжы, калі «Мірская батлейка» дзейнічала ўжо некалькі гадоў. Адметна, што сёння акрамя батлейкі навучэнцы каледжа займаюцца этналогіяй і этнаграфіяй, узнаўляюць старажытныя канты — шматгалосныя песні духоўнага зместу.

Наталля Кучынская падзякавала артыстам «Мірскай батлейкі» за магчымасць дакрануцца да спадчыны і выдатнае веданне гісторыі. «Калі не ведаць гісторыі: то і сучаснасці не будзе, і будучыню не пабудуеш». Паводле Сяргея Купца, гісторыка-археолага па адукацыі, будучыня ёсць толькі ў таго, хто шануе традыцыі. Менавіта за ўшанаванне традыцый, гісторыі, родных вытокаў дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Сяргей Квачан уручыў калектыву «Мірскай батлейкі» падзячны ліст.

Сярод юных акцёраў «Мірскай батлейкі» — староста калектыву Аляксандр Бурновіч, які ўвасобіў цара Ірада, Надзея Журавель (Рахіль), Вераніка Філон (Анёл) ды іншыя таленавітыя хлопцы і дзяўчаты. Музычнае афармленне пастаноўкі стварыў яшчэ адзін удзельнік калектыву — дудар Дамінік Пятроўскі.

**Яна ЯВІЧ**

# Газета як сведка часу

«Летапіс часу» — так называецца выстаўка, якая экспануецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя прымеркавана да 95-годдзя з дня выхаду ў свет штодзённай грамадска-палітычнай газеты «Савецкая Беларусь» (1920). Гісторыя выдання складаная і цікавая: мянялася назва, месца выхаду.

На выстаўцы прадстаўлена перыёдыка 1920 — 1940 гадоў: арыгіналы газет «Савецкая Беларусь», «Рабочы», «Советская Белоруссия».

У 1920 годзе ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі заснавалі штодзённую грамадска-палітычную газету «Савецкая Беларусь». У розныя перыяды гэта орган Рэўкама, ЦВК, СНК БССР. Адказнымі рэдактарамі ў свой час былі С. Булат, З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі, М. Чарот ды інш.

Газеты можна параўнаць з летапісамі. На іх старонках знайшлі адлюстраванне значныя грамадска-палітычныя падзеі, яны дапамагаюць нам зазірнуць у мінулае вачыма відавочцаў, адчуць атмасферу тых часоў, узгадаць гісторыю нашай краіны.

**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ**

# Тая самая зямля

З гісторыяй Рэчыцкага раёна цесна перапляліся лёсы многіх цікавых, неардынарных людзей. Асаблівае месца сярод іх належыць народнаму пісьменніку Беларусі Івану Якаўлевічу Навуменку.

Першыя творы Іван Якаўлевіч напісаў, маючы немалы жыццёвы досвед, і вельмі хутка заваяваў прызнанне чытачоў. Раннія апавяданні, рамантычныя, летуценныя, належаць да «васілевіцкага» перыяду творчасці. Кнігі «Хлопцы-равеснікі», «Таполі юнацтва», «Сямнаццатай вясной», «Тая самая зямля» ды іншыя — аўтабіяграфічныя: гэта ўспаміны пра сяброў, Васілевічы, родную прыроду.

Плённа пісаў і для дзяцей. Лепшыя яго творы змешчаны ў кнізе «Хатняе зайчанё». Знаёмства з імі дапаможа маленькім чытачам адчуць прыгажосць беларускага слова, навучыць з любоўю ставіцца да роднай мовы. Да юбілею Івана Навуменкі ў бібліятэках горада і раёна запланаваны «круглыя сталы», тэматычныя вечары, прэзентацыі, віртуальныя выстаўкі, літаратурныя святы, прысвечаныя жыццю і творчасці земляка.

**Таццяна СЫС, галоўны бібліёграф Рэчыцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі**

# Роднай мовы пералівы

Пад такой назвай у Чавускай дзіцячай бібліятэцы прайшла сустрэча вучняў сярэдняй школы № 1 з сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі Міколам Салаўцовым. Вечарына прысвячалася Міжнароднаму дню роднай мовы. Загадчыца кніжніцы Таццяна Філіпенка распавяла прысутным пра Кірылу і Мяфодзія, аўтараў першай славянскай азбукі, пра Францыска Скарыну, які ў 1525 г. надрукаваў першую кнігу на беларускай мове — Біблію. Затым адбыўся конкурс чытальнікаў вершаў пра родную мову, прагучалі цікавыя загадкі.

Мікола Салаўцоў прачытаў уласныя вершы пра родную мову, расказаў пра новыя творы, якія рыхтуюцца да друку, пра сустрэчы з Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Уладзімірам Паўлавым, Мікалаем Чаргінцом. Напрыканцы гутаркі пажадаў прысутным, каб у іх сэрцах ніколі не згасла любоў да роднай зямлі і матчынай мовы.

**Мікола ЧАВУСКІ**

# Свае

У Шчучынскай раённай бібліятэцы прайшла творчая сустрэча «Роднаму краю — талент і творчасць», прысвечаная 75-годдзю ўтварэння раёна. Аматары паэзіі мелі магчымасць паслухаць вершы мясцовых паэтаў у выкананні аўтараў — Галіны Бляяўскай і Івана Рэкеды.

Галіна Бляўская — паэтэса і мастачка. У 2009 годзе атрымала дыплом «За ўклад у духоўнамаральнае адраджэнне» на рэспубліканскім конкурсе «Жанчына-2009 ». Вершы творцы можна сустрэць у раённым і абласным друку, калектыўных зборніках і альманахах.

Іван Рэкеда называе свае творы вершамі-аповедамі. На рахунку творцы — сем кніжак. Яго творчасць прысвечана родным, сябрам і людзям, якія працуюць або працавалі на карысць горада і раёна, тым, чый подзвіг будуць памятаць вечна, — ветэранам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны.

**Таццяна ГУРАВА**

# Чым прывабіць чытача?

**На жаль, дзецям сёння больш падабаецца бавіць час за планшэтамі і мабільнікамі, чым за кнігамі. Як зацікавіць хлопчыкаў і дзяўчынак чытаннем? Адказ на гэтае пытанне шукалі ўдзельнікі «круглага стала», які адбыўся ў навуковай бібліятэцы БНТУ ў межах XXII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу.**



*Фота Кастуся Дробава*

Арганізатары запрасілі тых, чыя дзейнасць непасрэдна звязана з дзіцячай літаратурай: пісьменнікаў, выдаўцоў, бібліятэкараў, настаўнікаў пачатковых класаў. Галоўнае пытанне, на якое спрабавалі адказаць, чаму дзеці мала чытаюць? Здаецца, на паліцах хапае якасных каляровых выданняў як класікаў, так і сучасных аўтараў. Але сярод гэтай разнастайнасці лёгка разгубіцца. Да таго ж, не ўсе дзеці і бацькі рэгулярна наведваюць кнігарні ды бібліятэкі.

Па меркаванні Вольгі Сергіенка, якая працуе ў Цэнтры хуткага чытання, цікавасць да літаратуры можа знікнуць, калі малое адчувае падчас чытання цяжкасці: «Немагчыма любіць тое, што не атрымліваецца. Дзеці, якія чытаюць марудна, не могуць нармальна засвоіць інфармацыю, і паступова перастаюць цікавіцца кнігай». У гэтым выпадку могуць дапамагчы курсы скорачытання ды спецыяльныя практыкаванні: супрацоўнікі ўстановы прапануюць увесці трэнінгі ў школьныя праграмы.

Адмоўна паўплывалі на прагу чытаць і гаджэты. «Эпоха інтэрнэту выпрацавала новы стыль. Сёння нават дарослыя страцілі навык няспешнага, удумлівага чытання, — зазначыла пісьменніца Людміла Рублеўская. — Людзі прызвычаіліся праглядаць ленты навін у сусветным сеціве, атрымліваць кожны дзень як мага больш інфармацыі… У сучасным імклівым тэмпе жыцця становіцца складана ўспрымаць літаратурны твор са шматлікімі апісаннямі, сімваламі. Чалавек фактычна страціў здольнасць атрымліваць задавальненне ад мастацкіх, духоўных твораў».

Удзельнікі пасяджэння ўпэўніліся: адказнасць за выхаванне маленькай асобы як чытача нельга перакладаць на школу. Любоў да кнігі пачынаецца з сям'і: чытаюць бацькі — чытае дзіця. «Культура знаёмства з кнігай павінна выхоўвацца з ранняга дзяцінства, — зазначыў паэт Андрэй Смятанін. — Асабліва важна, каб бацькі чыталі дзіцёнку ўслых. Той, хто сябруе з кнігай з дашкольнага ўзросту, як правіла, вучыцца лепш, мае багаты слоўнікавы запас. А калі дзіця ўвесь час сядзіць за гаджэтамі і камп'ютарнымі гульнямі, з яго не вырасце ўсебакова развітая асоба».

Сёння вялікай папулярнасцю карыстаюцца электронныя кнігі. Таццяна Цуканава, кіраўнік праграмы «Кнігі дзеткам», разам з калегамі стварыла цэлую дзіцячую бібліятэку для мабільных прылад: «Цяпер людзі з усяго свету могуць спампаваць на свае дэвайсы дзіцячыя творы на беларускай мове. Электронная палічка змяшчае мноства ілюстраваных казак, агучаных прафесійнымі дыктарамі». Гэта вельмі зручна, напрыклад, у падарожжы: такая бібліятэка лёгка змесціцца ў кішэні. Але ўсё ж такі электронную кнігу нельга параўнаць з друкаванай.

«Сёння шмат гавораць пра тое, што кніга ў традыцыйным выглядзе знікне, і яе цалкам заменіць электронная. Але дакладна не дзіцячую! — сцвярджае пісьменніца Алена Масла. — Для маленькіх чытачоў вялікае значэнне мае не толькі цікавы тэкст, а яшчэ і афармленне, каляровыя, яскравыя ілюстрацыі».

У многіх хлопчыкаў і дзяўчынак склаўся стэрэатып, што кніга — гэта нешта сумнае, нецікавае. Каб прывабіць маленькага чытача, творцы праводзяць акцыі і імпрэзы, урокі гучнага чытання. Таццяна Пузырэвіч, кіраўнік праекта «Куфар дзіцячых кніг», распавяла пра музычныя прадстаўленні ды лялечны тэатр. Алена Масла, заснавальніца арт-студыі «Казка», — пра праекты «Чытаем разам, чытаем па-беларуску», «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні» і «Літаратурную масленіцу». А Ірына Тузіна, аўтар праграм «Калекцыя прыгодаў», ладзіць актыўныя гульні і цэлыя квэсты паводле кніжных сюжэтаў.

Не менш важна праводзіць у школах і дзіцячых садах сустрэчы з пісьменнікамі. Заняткі павінны быць вясёлымі, запамінальнымі: з гульнямі, загадкамі, песнямі. «Перадаць любоў да кнігі могуць творчыя асобы, — адзначыў пісьменнік і выдавец Валерый Квілорыя. — Неаднойчы даводзілася чуць, што менавіта пасля сустрэчы з празаікамі і паэтамі дзеці пачыналі чытаць, а ў некаторых нават з'явілася мара напісаць уласны твор».

Выдаўцы і пісьменнікі рознымі спосабамі імкнуцца зацікавіць дзіця. І часта галоўным пры гэтым становіцца яскравая, прыгожая форма, а не змест. Сёння ў кнігарнях можна знайсці кнігі-цацкі, ёсць нават творы па сюжэтах камп'ютарных гульняў. Такія выданні, безумоўна, карыстаюцца попытам, але кнігу нельга ўспрымаць толькі як забаву — дзеці адвыкаюць ад высокамастацкіх твораў.

А можа, праблема ў тым, што хтосьці яшчэ не сустрэў кнігу, з якой пачнецца любоў да чытання? «Дзіцяці патрэбна цікавая гісторыя, — падкрэсліла Людміла Рублеўская. — Джоан Роўлінг напісала «Гары Потэра» — і ўсе дзеці пачалі чытаць. Нават тыя, хто раней быў абыякавы да літаратуры. Пісьменнік павінен размаўляць з маленькім чытачом на адной мове, шукаць сімвалы, блізкія дзецям».

Якімі вартасцямі павінна валодаць добрая кніга для дзяцей? Прысутныя ахарактарызавалі яе наступным чынам: маляўнічая і яркая, вясёлая і павучальная. Тая, што закране да глыбіні душы, прымусіць з цікавасцю перагортваць старонку за старонкай, стане дарадцам і сябрам. Такую кнігу хочацца мець у хатняй бібліятэцы, перачытваць. Ніякія гаджэты, нават найноўшыя, не змогуць яе замяніць.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

### ШТО ЛЮБЯЦЬ ДЗЕЦІ

Падчас «круглага стала» ў РВУ «Звязда» размова таксама тычылася дзіцячых кніг. Бібліятэкары адзначылі, што на беларускай мове выходзіць мала кніг для падлеткаў, не хапае і выданняў для хлопчыкаў. Загадчыца мінскай дзіцячай бібліятэкі № 16 Вольга Ціткова падкрэсліла: дзеці вельмі любяць агучаныя выданні. Прываблівающь і гульні ў кнігах, што абавязкова варта ўлічваць айчынным выдавецтвам. На думку бібліятэкараў, у кнігах на роднай мове для дзяцей дашкольнага ўзросту і вучняў пачатковай школы можа быць менш тэксту, але абавязкова патрэбны цікавыя ілюстрацыі. Кнігі для дзяцей мусяць быць зручныя — не вялікія, не вельмі цяжкія.

Уласным досведам падзялілася дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Таццяна Швед: «Каб беларускую кнігу бралі чытачы, трэба працаваць. Трэба самому чытаць, каб зацікавіць наведвальнікаў». Прадстаўнік Нацыянальнай бібліятэкі Людміла Кірухіна звярнула ўвагу на неабходнасць выкарыстання новых форм працы, якія могуць прывабіць чытачоў. Выдатны прыклад — конкурс на лепшую бібліятэчную закладку, у якім удзельнічала шмат дзяцей і бацькоў.

З'яўляецца ўсё больш сем'яў, дзе прывучаюць дзяцей чытаць па-беларуску. «Можа, гэта будзе неспадзяванкай, але пераважна па нядзелях прыходзяць дзеці з бацькамі (найчасцей — з татамі) і бяруць менавіта беларускія выданні, — расказала Вольга Ціткова. — Ёсць наведвальнікі, якія ўжо ўсё перачыталі, ім трэба новае!»

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З мэтай супрацоўніцтва

Першая мэта «круглага стала» ў Выдавецкім доме «Звязда» — знаёмства бібліятэкараў з кніжнымі праектамі. Абмеркаванне новых выданняў і іх добра вядомых аўтараў перайшло ў дыскусію па праблемных пытаннях. Некаторыя цікавыя тэмы будуць разгледжаны ў асобных публікацыях «ЛіМа». Актыўныя выступоўцы «круглага стала» — намеснік дырэктара па навокрвай працы і сувязях з грамадскасцю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна, намеснік дырэктара па навуковай працы і выдавецкай дзейнасці НББ Алесь Суша, дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска Алена Кубышкіна. Прапануем невялікі фрагмент размовы, прысвечаны пытанням кніжнага супрацоўніцтва і перспектывам беларускіх выданняў.

### ПЫТАННЕ Ў ТЭМУ: ЦІ ЎПЛЫВАЕ ЛІТАРАТУРА НА ГРАМАДСТВА?

Алесь Суша: «Літаратура грамадскім жыццём не рухае». Гэта меркаванне — адна з праблем, якія існуюць у стаўленні да культуры ў цэлым. Непасрэднага, імгненнага ўплыву, уздзеяння на грамадскасць культура не рабіла ніколі. Але нягледзячы на запаволены, апасродкаваны ўплыў і навукова-папулярная, і грамадска-палітычная, і мастацкая літаратура працягвае ўздзейнічаць на падрастаючыя пакаленні, на сталых чытачоў. Так, пераклады кніг замежных пісьменнікаў уваходзяць у сферу двухбаковых культурных кантактаў, якія робяцца рухавіком для супрацоўніцтва ў іншых сферах — у вытворчасці, эканоміцы.

Раней людзі сцвярджалі, што кінематограф і тэлебачанне выжывуць кнігу, цяпер тое ж кажуць пра інтэрнэт. Багата фактараў, якія ўплываюць на грамадскую свядомасць, але яны проста дапаўняюць інфармацыйнае ўздзеянне. Тым, хто працуе з кнігай, трэба гэта ўлічваць і выкарыстоўваць у прафесійнай дзейнасці».

**Алесь Суша:** «У плане супрацоўніцтва паміж кніжніцай і выдавецтвамі нямала аспектаў для супольнай працы. Мы б хацелі бачыць выдавецтвы ў якасці не толькі ўдзельнікаў, але і арганізатараў мерапрыемстваў. Трыяда «аўтар — выдавец — бібліятэкар» найлепшая аснова для правядзення літаратурных сустрэч і прэзентацый.

У Мінску ёсць кніжніцы, якія займаюцца японскай, французскай, нямецкай, кітайскай тэмай. НББ шмат гадоў працуе ў межах праекта «Акно ў Кітай». Мы звязваемся з амбасадай, пісьменнікамі, выдаўцамі Кітая, атрымліваем арыгінальныя аўтэнтычныя выданні з гэтай краіны. Перадачу кніг у фонд бібліятэкі можна было б спалучыць з мерапрыемствамі выдавецтваў.

Бібліятэкі Беларусі таксама маглі б стаць аўтарамі пэўных праектаў у кніжнай справе. Мы напярэдадні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Каб годна адзначыць гэтую падзею, патрэбна супольная праца выдаўцоў, бібліятэкараў, навукоўцаў, некаторых іншых інстытуцый. Бібліятэкам ёсць што прапанаваць!»

**Людміла Кірухіна:** «Трэба разам вырашаць: што рыхтаваць, выдаваць, папулярызаваць. У Выдавецкім доме «Звязда» выходзяць вельмі цікавыя часопісы «Маладосць» і «Бярозка». У «Бярозкі» новае аблічча, у «Маладосці» — шмат новых імёнаў. І калі ў вас друкуюцца творы для моладзі, трэба абавязкова працаваць у сацыяльных сетках, каб маладыя чытачы больш актыўна знаёміліся з выданнямі. Шмат якія аўтары літаратурных часопісаў ужо вытрымалі пэўны конкурс у бібліятэках і могуць смела выдаваць новыя кнігі. Але адразу значны тыраж — гэта сур'ёзная рызыка! Мы вылічвалі з Алесем Аляксандравічам сярэдні тыраж беларускіх выданняў...»

**А. С.:** «Атрымаўся ён надта дробны: калі ўлічваць ведамасныя, малатыражныя выданні, не будзе нават 200 экзэмпляраў. Афіцыйная справаздача Нацыянальнай кніжнай палаты крыху лепшая — але літаральна на некалькі дзясяткаў экзэмпляраў».

**Л. К.:** «Тыражы падаюць ўва ўсім свеце. На міжнародных бібліятэчных канферэнцыях канстатуецца, што будучыня за электроннай кнігай, за электроннымі носьбітамі. Друкаванае выданне будзе каштаваць дорага. Але і па змесце, і па афармленні гэта павінна быць кніга, якую хацелася б захоўваць».

**Алена Кубышкіна:** «Калі ў вольным доступе ў інтэрнэце будзе ўсё, створанае інтэлектам чалавецтва, адбудзецца цікавая рэч: зачыняцца выдавецтвы, кнігарні, бібліятэкі. Як аўтар прадасць свой прадукт — цяжка сказаць. Бібліятэка — гэта адно з месцаў, дзе вучацца кантактаваць і жыць сярод людзей. Калі ты малады — рухайся, будзь у соцыуме, не толькі ў сацсетках, бо людзям трэба ўмець камунікаваць у рэальнай прасторы».

**А. С.:** «Ёсць некаторыя катэгорыі выданняў, што бясспрэчна застануцца запатрабаванымі ў папяровым варыянце. У першую чаргу гэта дзіцячая літаратура. Чытаць з планшэта не праблема, але, напрыклад, майму сыну нашмат цікавей патрымаць кнігу, пагартаць яе, паглядзець ілюстрацыі.

Другая катэгорыя запатрабаваных друкаваных выданняў — падручнікі. Цяпер ва ўніверсітэцкія бібліятэкі ідуць па вучэбныя дапаможнікі значна часцей, чым некалькі гадоў таму. Студэнтам нібы дакучылі электронныя падручнікі. Мець друкаваны дапаможнік застаецца надзённай патрэбай, але набыць яго часам цяжка. Перспектывы ў папяровай кнігі безумоўна, ёсць, нельга сказаць, што нас чакае татальны перакос у бок электронных выданняў».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Вяртанне песні



Фота Яўгена Матукі

*Сцэна са спектакля «Адвечная песня». У ролі Лета — Анастасія Баброва, у ролі Мужыка — Ігар Сігаў.*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

І сапраўды… У 2003 годзе пастаноўку назвалі лепшым спектаклем на міжнародным фестывалі «Славянскія тэатральныя сустрэчы». У 2006-м калектыў РТБД атрымаў дыплом «За лепшы акцёрскі ансамбль», а выканаўца галоўнай ролі Ігар Сігаў — узнагароду за лепшае сцэнічнае ўвасабленне глыбіні славянскай душы на VIII Міжнародным тэатральным фестывалі «Мельпамена Таўрыі» (Украіна). Яшчэ праз год прафесійнае журы IX Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Галасы гісторыі» (Расія) прысудзіла «Адвечнай песні» Гран-пры. Вялікі поспех спектакль меў на тэатральным конкурсе XIII Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». З нядаўніх трафеяў — Гран-пры Тэатральнага фестывалю міжнароднага Чарнаморскага клуба HOMO LUDENS ва Украіне ў 2013 годзе.

— Дапамогу ў рэканструкцыі знакавага для нашай краіны спектакля аказалі Міністэрства культуры Беларусі, апякунскі савет РТБД і іншыя, — патлумачыў дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Уладзімір Карачэўскі. — Пастаноўка запатрабавала каля 400 мільёнаў беларускіх рублёў — кошт двухтрох паўнацэнных невялікіх спектакляў. У планах тэатра — паказ у сакавіку 2015-га «Адвечнай песні» на малой сцэне Палаца Рэспублікі, гастролі ў Беластоку (Польшча), удзел у музычным фестывалі «Музычныя вечары ў Мірскім замку», а таксама на «Славянскім базары ў Віцебску». Па магчымасці будзем запрашаць іграць ужывую гурт «Палац».

**Таццяна ШЫМУК**

# Дух эпохі рамантызму

**З Парыжа ў Мінск у суправаджэнні Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі дастаўлены ўнікальныя творы мастацтва XVIII стагоддзя, звязаныя з жыццём Адама Міцкевіча.**




*Гравюра да балады Адама Міцкевіча «Пані Твардоўская». 1822 г.*

Экспанаты ўвайшлі ў выстаўку «Прарок свайго часу. Адам Міцкевіч. Ілюстрацыі і медалі», якая адкрылася ў філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Музеі «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя». 23 рарытэтныя прадметы: 6 памятных медалёў, прысвечаных Адаму Міцкевічу (1798 — 1855), 16 арыгінальных гравюр да твораў «Пані Твардоўская» (1822), «Гражына» (1823), «Конрад Валенрод» (1828) і кніга «Славяне», у якую ўвайшлі лекцыі, прачытаныя паэтам у 1842 — 1844 гг. у Калеж дэ Франс.

У межах адкрыцця выстаўкі адбылася ўрачыстая прэзентацыя копіі з партрэта Марыі Шыманоўскай (1789 — 1831), славутай піяністкі, кампазітара і музычнага дзеяча першай паловы XIX стагоддзя пэндзля вядомага беларускага жывапісца Віктара Альшэўскага (нар. 1953). Арыгінал партрэта пэндзля Валенція Ваньковіча (1800 — 1842) знаходзіцца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы.

Мастак Валенцій Ваньковіч напісаў партрэт у Пецярбургу ў 1827 — 1828 гг., дзе Марыя Шыманоўская ў гэты час, атрымаўшы тытул «першай піяністкі іх Імператарскіх Вялікасцей Імператрыц», навучала ігры на фартэпіяна вялікіх князёўнаў. У доме на Італьянскай вуліцы, дзе Марыя трымала музычны салон, бывалі паэты, літаратары Васіль Жукоўскі, Аляксандр Грыбаедаў, Пётр Вяземскі, Мікалай Карамзін і інш. Пазней ужо ў Парыжы яе малодшая дачка Цаліна ўзяла шлюб з Адамам Міцкевічам.

Перадпрэзентацыя няскончанай копіі партрэта Марыі Шыманоўскай пэндзля Валенція Ваньковіча, выкананая Віктарам Альшэўскім, адбылася 23 верасня 2014 года ў прэстыжным клубе Парыжа Cercle de l'Union Interalliée, які аб'ядноўвае прадстаўнікоў вышэйшага кіраўніцтва французскіх і замежных урадавых і дзелавых эліт, паслоў замежных дзяржаў. Прэзідэнт клуба Дзяніс дэ Кергале і Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка высока ацанілі майстэрства беларускага жывапісца і адзначылі важнасць працы па вяртанні гісторыка-культурных каштоўнасцей з краін Еўропы ў Беларусь.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Небяспека жанру «ню»

**Творы беларускіх мастакоў-авангардыстаў з калекцыі Андрэя Плясанава прадстаўлены на выстаўцы «Авантура» (Авангард + аголеная натура) у Цэнтры сучасных мастацтваў Беларусі.**

Культуралагічныя адрозненні паміж паняццямі «распрануты» і «аголены», прынятымі ў сучаснай філалогіі, выяўляюцца і ў сферы выяўленчага мастацтва. Небяспека жанру «ню», прывабнага для многіх мастакоў, заключаецца ў тым, што пры малюнку аголенай натуры мера густу і ўзровень майстэрства праяўляюцца асабліва відавочна і востра, бо наўпрост вызначаюць уменне перадаць не сітуацыю «распранутасці», а эстэтычны вобраз «аголенасці».

У розныя эпохі ўласцівасцямі аголенай натуры станавіліся алегарычнае і іншасказальнае або канкрэтыка, матэрыяльнасць. Гэтымі якасцямі мастакі надзялялі герояў міфаў і антычных багоў, слынных персанажаў і невядомых натуршчыкаў.

Жывапіс авангарду ёміста дэманструе суб'ектыўны погляд на мастацкія задачы,



*Валерый Песін. 1999 г.*

сціраючы грані паміж партрэтам, пейзажам, нацюрмортам, кампазіцыяй. Творы авангардыстаў — альтэрнатыва агульнапрынятаму светапогляду.

У гэтым унікальнасць і каштоўнасць беларускага авангарду 1980 — 1990-х гадоў. Папулярнасць постсавецкага мастацтва на Захадзе кардынальна змяніла прыярытэты ў мастацкім жыцці нашай краіны. Пачалося фарміраванне прыватных калекцый авангарду, адной з якіх з'яўляецца і калекцыя вядомага беларускага музыкі, мастака і кінарэжысёра Андрэя Плясанава.

Структура экспазіцыі «Авантура» раскрывае асноўны жанравы дыяпазон, у якім «аголенасць» — зыходная кропка творчасці жывапісцаў-авангардыстаў. Многія мастакі працавалі з аголенай натурай, якая з канца XIX стагоддзя стала часткай абавязковай праграмы навучання ў акадэміях мастацтваў. Аднак калекцыя А. Плясанава сабрала творы тых, для каго малюнак цела — неад'емная частка творчасці.

Кампазіцыйных схем, якімі карыстаюцца мастакі пры працы з мадэллю, няшмат. Таму ў экспазіцыі вельмі важны элемент параўнання. У залах цэнтра выстаўлены работы такіх вядомых мастакоў, як: Сяргей Малішэўскі, Уладзімір Кожух, Артур Клінаў, Аляксандр Забаўчык, Віктар Ціханаў, Адам Глобус, Дзмітрый Сурыновіч, Віталь



*Галіна Васільева. 2013 г.*

Чарнабрысаў, Вольга Сазыкіна, Генадзь Хацкевіч, Людміла Русава ды іншых.

Наведаць выстаўку можна па 8 сакавіка.

**Ганна ШЫМУК**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2257.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 26.02.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1460 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686